ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ ЦАНА — PRICE $ 1.00

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
POST ADDRESS: BIELARUS, P. O. BOX 109, JAMAICA, N. Y. 11431. Tel.: (212) 380-2036
Год. XXVII, № 252 New York, April — Красавік 1978 Vol. XXVII, № 252

## ХРЫСТОС УВАСКРОС!

Вітаем Вас, Дарагія Браты й Сёстры, зь Вялікім Днём Радасьці й Надзеі — Уваскрасеньнем Госпада Нашага Ісуса Хрыста! Гэтае Вялікае Сьвята ляжыць у васнове Хрысьціянства й нашай Праваслаўнай Веры. Сваім Уваскрасеньнем Госпадзь Наш Ісус Хрыстос пакінуў сьмерць, таму вось мы павінны памятаць і ўрачыста сьвяткаваць Сьвята Ўваскрасеньня Хрыста, Сьвята ўсіх сьвятаў. Узапраўды Вялікае Сьвята Радасьці й Перамогі жыцьця над сьмерцяй Вы сяньня сьвяткуеце.

Але далёка ад сваіх родных і знаёмых, тут на чужыне, таксама далёка ад нашай дарагой Бацькашчыны. Маліцеся Госпаду Богу моцна й шчыра, трымайцеся сваёй Праваслаўнай Веры, не паддавайцеся ніякім спакусам, што адхіляюць Вас ад Вашай Духовай Маткі — Сьвятой Апостальскай Праваслаўнай Царквы. Дапамагайце Вашай Царкве, каб яна вечна існавала для нас і для людзей добрай волі ўсяго Хрысьціянства.

Вітаем Вас усіх, нашы Дарагія, зь Вялікім Днём Радасьці!

ХРЫСТОС УВАСКРОС! ЗАПРАЎДЫ ЎВАСКРОС!

**Архімандрыт Язэп Строк**
**Настаяцель Беларускай Праваслаўнай Царквы Сьвятога Юр'я ў Чыкага**
30 красавіка 1978

# 60-ЫЯ УГОДКІ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛРУСІ У НЬЮ ЁРКУ



**У выніку стараньняў Аддзелу БАЗА ў Нью Брансьвіку пад старшынствам С Гутырчыка пры будынку Гарадзкой Управы гораду, побач з амэрканскім, павяваў і бел-чырвона-белы сьцяг беларускі. Фота: Жэні Дубягі.**

60-я ўгодкі Першага Ўсебеларускага Кангрэсу й Акту 25 Сакавіка былі ўрачыста адзначаныя ў вялікай музычнай залі Білтмор-гатэлю на Мангтэне ў Нью Ёрку ў нядзелю 2 красавіка папаўдні сёлета. Сьвяткаваньне было зладжанае Галоўнай Управай, Ньюёркаўскай Акруговай Управай і Управай Аддзелу ў Нью Джэрзі Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ды Галоўнай Управай Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі.

Перад гэтым наранніцы сакавіковым угодкам былі прысьвечаныя багаслужбы ў катэдральным саборы БАПЦ Сьв. Кірылы Тураўскага пры 401 Атлянтык авэню ў Брукліне. Пратаярэй а. Васіль Кендыш у суслужэньні а. Расьціслава Войтанкі адправіў Сьв. Літургію й Малебен ды сказаў глыбака патрыятычную казань. Падчас багаслужбаў прыгожа пяяў злучаны із сьпявакоў Нью Ёрку й Гайлэнд Парку хор пад кіраўніцтвам сп. Барыса Данілюка.

Урачыстую акадэмію ад імя ўсіх ейных арганізатараў адчыніў старшыня Галоўнай Управы БАЗА сп. Антон Шукелайць. Ведамая салістка Ліза Маркоўская пад акампаньямант на піяніне свайе маці праф. Эльзы Зубковіч прапяяла амэрыканскі гімн. Айцец Расьціслаў Войтанка прачытаў у ангельскай мове малітву, якую ён сказаў у Кангрэсе ЗША 21 сакавіка сёлета, пасьля чаго сп. А. Шукелайць далейшае вядзеньне праграмы перадаў віцэ-старшыні Галоўнай Управы БАЗА інж. Вячаславу Станкевічу.

Былі прачытаныя на акадэміі ў тэму дня два даклады: галоўнага рэдактара газэты „Беларус" д-ра Станіслава Станкевіча ў беларускай мове й старшыні Галоўнай Управы Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі Юркі Азаркі — у мове ангельскай.

У далейшым былі прачытаныя праклямацыі ў гонар угодкаў 25 Сакавіка. Праклямацыю Бурмістра Нью Ёрку Эдварда І. Кача, якой быў абвешчаны дзень 25 сакавіка сёлета Беларускім Днём у Нью Ёрку й якой былі закліканыя жыхары гораду ўшанаваць гэты дзень, прачытала сп-чна Рая Станкевіч. Праклямацыю Губэрнатара штату Нью Ёрку Эдварда І. Кача, якой чаўся дзень 25 сакавіка Днём Беларускай Незалежнасьці, прачытаў Юрка Андрусышын. Праклямацыю Губэрнатара штату Нью Джэрзі Брэндана Бэрна прачытаў Юрка Курыла. Апрача гэтага, падобнага зьместу праклямацыі прыслалі: Губэрнатар штату Канэктыкэт сп-ня Эля Грасо, Губэрнатар штату Пэнсыльванія Мільтон Шап, Губэрнатар штату Дэлевэр П'ер С. Д'ю Понт, Губэрнатар штату Вірджынія Джон Л. Дальтон, Губэрнатар штату Масачусэтс Майкл С. Дукакіс, Губэрнатар штату Нью Гэмпшыр Мэльдрым Томсон і Бурмістр гораду Нью Брансьвік Рычард Дж. Мулігэн.

На тэму 60-х угодкаў абвешчаньня дзяржаўнай незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі выступілі ў Кангрэсе ЗША з адпаведнымі заявамі сэнатары Кліфард Кэйс (Нью Джэрзі), Піт Доменічы (Нью Мэксыка), Рычард Стоўн (Флярыда), кангрэсмэнка Мілісэнт Фэнўік (Нью Джэрзі), кангрэсмэны Эдвард Дэрвінскі (Ілінай), Эдвард Патэн (Нью Джэрзі), Джэймс Флёрыё (Нью Джэрзі), Томас О'Ніл (Масачусэтс), Джон Фэры (Ілінай), Фрэнк Анунцыё (Ілінай), Пітэр Родыно (Нью Джэрзі), Чарлз Ўэйлэн (Огаё), Даглас Ўолгрэн (Пэнсыльвэнія), Джон Уайдлер (Нью Ёрк), Джэймс Блянкард (Мічыгэн), Джозэф Мініш (Нью Джэрзі), Рэймонд Ледэрэр (Пэнсыльвэнія).

На адрас старшыні Галоўнай Управы БАЗА А. Шукелайця былі атрыманыя афіцыйныя віншавальныя лісты ад некаторых сэнатараў і кангрэсмэнаў. Ведамы вялікі прыяцель Беларусаў даўгагадовы сэнатар Нью Ёрку Джэйкаб Джавіц у сваім лісьце між іншым пісаў: „Вы можаце быць пэўнымі, што як сябра Сэнацкай Камісіі Замежных Справаў, я буду зварачаць на праблему Паняволеных Народаў сваю асаблівую ўвагу". А вось словы з віншавальнага ліста сэнатара Каліфорніі С. І. Гаякава: „Пагвалчаньне людзкіх правоў, дзе-б яно мела месца, датычыць да ўсіх нас. Наагул, я задаволены, што Адміністрацыя Картэра рупіцца пра гэтую справу, і я падпісаў суполька з маймі сябрамі шмат лістоў, што датычацца да розных праблемаў, зьвязаных зь людзкімі правамі.

Апрача гэтага, сп. А. Шукелайць атрымаў падобныя лісты ад сэнатараў: МэкК. Матыяс (Мэрылэнд), Рычарда Стоўн (Флярыда) і кангрэсмэнаў: Джона Мэрфі (Нью Ёрк), Лестэра Вольфа (Нью Ёрк), Рычарда Люгар (Індыяна), Робэрта Морган (Паўночная Каралайна), Эда Джэнкінс (Джорджыя), Фрэда Рычмонд (Нью Ёрк). На адрас старшыні Аддзелу БАЗА ў Нью Джэрзі Сяргея Гутырчыка былі прысланы віншавальныя лісты ад наступных кангрэсмэнаў штату Нью Джэрзі: Мілісэнт Фэнўік, Джэймс Флёрыё, Мэт'ю Рынальдо, Эдварда Патэна.

На акадэміі былі прачытаныя прывітаньні ад наступных асобаў, установаў і арганізацыяў: Высокага Дастойнага Мітрапаліта БАПЦ Андрэя, Старшыні Рады БНР д-ра Вінцэнта Жук-Грышкевіча (тэлеграма), Галоўнай Управы Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі (паангельску), арганізацыі Беларуская Незалежніцкая Думка ў Паўночнай Ангельшчыне (падпісалі Я. Калбаса й М. Віценчык), Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў Вікторыі ў Аўстраліі (Л. Яцкевіч — старшыня, М. Нікан — сакратар), Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады (Д-р Раіса Жук-Грышкевіч — сакратар), Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі (М. Бахар — віцэ-старшыня, М. Сенька — сакратар), Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Чыкага (Васіль Пунтус — старшыня), Беларуска-Амэрыканскага Аб'яднаньня ў Нью Ёрку (В. Шчэцька — сакратар), Прадстаўніка БККА на Каліфорнію Ч. Найдзюка, Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў у Нью Джэрзі (Каманьдзер кпт. Сяргей Гутырчык).

З прысутных на акадэміі гасьцей выступіў з прамовай сьвежы расейскі эміґрант сп. Ігар Сінявін, які выехаў із Савецкага Саюзу ў 1976 годзе ды стаўся адным із заснавальнікаў групы „Расейцы за скасаваньне імпэрыі". Ён прыбыў на сьвяткаваньне із сваім аднадумцам, таксама эміґрантам 1976 году із Савецкага Саюзу сп. Пятром Балдуваром. У сваёй цікавай прамове Ігар Сінявін выказаў пажаданьне, каб у будучыні ўгодкі незалежнасьці Беларусі адзначаліся ў Менску.



**„Матылькі" выконваюць беларускі народны танец „Мікіта"**
**Фота: А. Сільвановіча**

Прамоўца пераканаваны, што гэтае ягонае й ягонай групы пажаданьне ўжо ў недалёкай будучыні станецца рэчаіснасьцяй (шырэй пра групу „Расейцы за скасаваньне імпэрыі" й ейныя палітычна-ідэйныя прынцыпы чытачы знойдуць у вадмысловым інфармацыйным артыкуле на бачыне 5-й у гэтым нумары газэты — Рэд.).

Адмыслова прыбыль з Таронта пісьменьнік Кастусь Акула выступіў з прамовай ад ачольваных ім Камітэту Сувязі Былых Беларускіх Вайскоўцаў (іхным прэсавым органам выданы ў Таронце часапіс „Зважай!") і ад Беларускага Выдавецка-Мастацкага Клюбу „Пагоня". Ён падчыркнуў вялікую ролю моладзі ў нацыянальным працэсе й заклікаў яе да больш актыўнага ўдзелу ў нацыянальнай дзейнасьці, галоўна ў галіне вонкавых дачыненьняў. З даручэньня старшыні Галоўнай Управы Згуртаваньня Беларусаў Канады ён азклікаў да масавага ўдзелу ў сёлетняй Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі, якая гэтым разам адбудзецца ў Таронце на Лейбар-Дэй у пачатку верасьня.

Афіцыйная праграма акадэміі была ўдала пераплятаная мастацкімі выступленьнямі. На высокім мастацкім узроўні былі выступленьні нашых таленавітых пявуньняў Лізы Маркоўскай і Гаі Дарашэвіч-Тэдонэ.

Спачатку Ліза Маркоўская прапяяла тры песьні пад акампаньямант на піяніне Ірыны Ганчаровай: „Ты прыдзі", на словы Янкі Купалы музыкі кампазытара Міколы Куліковіча, „Перад раньнем", на словы Натальлі Арсеньневай, і „Ветру", на словы Алеся Гаруна, абедзьве музыкі камп. праф. Эльзы Зубковіч.

Солё выступіла й Гая Ярашэвіч-Тэдонэ. Пад акампаньямант Ірыны Ганчаровай яна прапяяла песьню „Дарога", на словы Якуба Коласа, музыкі праф. Э. Зубковіч, і „Беларусь мая песьня", на словы М. Браўна музыкі камп. Юр'я Семяняякі.

Цёпла было прынятае выступленьне дуэтам Гаі Ярашэвіч-Тэдонэ й Лізы Маркоўскай пры акампаньяманьце Ірыны Ганчаровай. Яны прапяялі песьню „Вечар вясеньні" і лірычны ўрывак з паэмы „Нарач", абедзьве на словы Максіма Танка музыкі кампазытара Анатоля Багатырова.

Асабліва энтузыястычна быў вітаны й праводжаны бурнымі воплескамі ўлюбенец беларускай аўдыторыі Данчык Андрусышын, які пад собскі акампаньямант на гітары прапяяў тры песьні з праграмы слаўнага беларускага вакальна-інструмэнтальнага ансамблю „Песьняры": народную песьню „А ў полі вярба", гарманізацыі мастацкага кіраўніка „Песьняроў" Уладзімера Мулявіна, пачатковы лірычны зварот з паэмы „Новая Зямля" Якуба Коласа „Мой родны кут", музыкі кампазытара Ігара Лучанка, і „Беларусь ты мая" на словы Ўладзімера Скарынкіна музыкі Ул. Мулявіна.

Вельмі прыемнае пакінула ўражаньне выступленьне танцавальнай групы „Матылькі" дзяцей беларускай сыботняй школы ў Нью Брансьвіку пад кіраўніцтвам Юркі Кіпеля й Наты Русак. Выкананы „матылькамі" беларускі народны танец „Мікіта" быў узнагароджаны дружнымі воплескамі.

Нацыянальныя сьвяткаваньні й іншыя ўрачыстасьці ў Нью Ёрку звычайна не абыходзяцца ад даўжэйшага ўжо часу бязь ведамага жаноцкага сэкстэту „Гоман" і выдатнага харэаграфічнага ансамблю „Васілёк" зь Нью Брансьвіку пад умелым кіраўніцтвам Алы Орса-Рамана. Нажаль, гэтым разам, калі адзначаўся нязвычайна важны нацыянальны юбілей, абодвых гэтых высока мастацкіх ансамбляў ня было. А шкада!

Наапошку д-р Янка Запруднік даў кароткую інфармацыю пра адзначаньне 60-х угодкаў абвешчаньня дзяржаўнай незалежнасьці БНР дзяржаўнымі органамі ЗША ў Вашынгтоне, пра што шырэй на іншых месцах гэтага нумару газэты. Ён-жа прадставіў прысутнага ў залі дэлегата Першага Ўсебеларускага Кангрэсу Міхася Міцкевіча, роднага брата Якуба Коласа. Заслужанаму беларускаму дзеячу прысутныя наладзілі бурную авацыю.

Праведзены на акадэміі збор ахвяраў на выдавецкія фонды газэты „Беларус" і часапісу „Беларуская Моладзь" даў суму $ 519.50.

Акадэмія закончылася агульным прапяяньнем беларускага гімну.

**Ст. Ст.**

## ПРАКЛЯМАЦЫЯ БУРМІСТРА НЬЮ ЁРКУ



**Адмысловы Асыстэнт Бурмістра Нью Ёрку Гэрбэрт Рыкман (другі зьлева) перадае Праклямацыю беларускай дэлегацыі.**

Бурмістр гораду Нью Ёрку Эдвард І. Кач у падпісанай ім Праклямацыі абвесьціў дзень 25 сакавіка 1978 году Беларускім Днём у найвялікшай мэтраполіі сьвету. Для ўдзелу ў урачыстасьці афіцыйнага переданьня Беларуска-Амэрыканскаму Задзіночаньню згаданае Праклямацыі 22 сакавіка ў прыёмовай залі Гарадзкой Управы Нью Ёрку зьявілася беларуская дэлегацыя ў складзе: сяброў Ньюёркаўскага Аддзелу Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі Веры Запруднік, Данчыка Андрусышына й Ніны Запруднік, рэфэрэнткі вонкавых дачыненьняў Галоўнай Управы БАЗА мгр. Раісы Станкевіч і старшыні Ньюёркаўскага Аддзелу БАЗА мгр. Міколы Кунцэвіча.

## ДА СЯБРОЎ ВЭТЭРАНАЎ І ЎСЯГО БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДЗТВА

25 травеня 1978 году прыпадаюць 10-ыя ўгодкі сьмерці Генэрала Францішка Кушаля, выдатнага арганізатара беларускіх збройных сілаў: былага Каманьдзера ахвіцэрскіх курсаў Беларускае Самаахоўы, Каманьдзера Беларускае Краёвае Абароны, Каманьдзера Дывізіі „Беларусь" ды Каманьдзера Беларускіх Вэтэранаў на Чужыне.

Галоўная Ўправа Беларускіх Вэтэранаў арганізуе Паніхіду й Урачыстую Акадэмію ў памяць Ген. Ф. Кушаля й усіх іншых беларускіх змагароў-гэрояў, і пры гэтай нагодзе Сустрэчу Беларускіх Вэтэранаў 27-га й 28-га травеня ў Дэтройце (штат Мічыган) у Беларускім Царкоўна-Грамадзкім Цэнтры:

14861 Collinson, East Detroit, Mich. 48021
Tel.: (313) 777-8362.

Заклікаем і шчыра запрашаем усіх Беларускіх Вэтэранаў ды прадстаўнікоў беларускіх грамадзкіх арганізацыяў прыбыць і прыняць удзел у гэтай Урачыстасьці, каб ушанаваць памяць вернага сына нашага Народу, вялікага беларускага патрыёту ды жаўнера-вайсковіка.

Плянуйце ўжо цяпер правесьці „Мэмарыял Дэй" у Дэтройце — на Сустрэчы Вэтэранаў. Дакладнейшая праграма сьвяткаваньня будзе разасланая ў Аддзелы Беларускіх Вэтэранаў ды ўва ўсе беларускія асяродкі.

**Галоная Ўправа Беларускіх Вэтэранаў**

BIELARUS
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION. Inc.
Subscription $ 10. 00 yearly.
„БЕЛАРУС" — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкаю — 10.00 дал. на год.
Незамоўленыя рукапісы назад не зьвяртаюцца.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам аўтара, могуць выражаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# ДЭКЛЯРАЦЫЯ

## РАДЫ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ НА 60-Я ЎГОДКІ АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ

(25.III.1918 — 25.III.1978)

Беларускі народ на паднявольнай Бацькаўшчыне, а таксама ў рассяленьні й на выгнаньні па Савецкім Саюзе ды на эміграцыі, адзначае 60-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі ў часе, калі дзесяткі былых каляніяльных народаў Азіі й Афрыкі, здабыўшы па Другой сусьветнай вайне незалежнасьць, вядуць сваё нацыянальна-дзяржаўнае будаўніцтва;

калі ў дзяржавах Захаду нацыянальныя й этнічныя меншыні — Баскі й Каталёнцы ў Гішпаніі, Шатляндцы й Валійцы ў Вялікабрытаніі, Флямандцы ў Бэльгіі, Квэбэкцы ў Канадзе ды іншыя — дамагаюцца й здабываюць штораз больш палітычных правоў і нацыянальна-культурнае свабоды;

калі па цэлым сьвеце на парадку дня стаіць пытаньне людзкіх і нацыянальных правоў;

і калі адначасна, з другога боку, у Савецкім Саюзе, гэтай апошняй каляніяльнай імпэрыі, праводзіцца напорна далей гвалт над нерасейскімі народамі, у тым ліку Народам Беларускім, у імя сусьветнага камуністычна-расейскага панаваньня.

У сыстэме расейскага экспаньсіянізму Беларусь ператвораная ў васноўным у пастачальніцу матар'яльных і людзкіх рэсурсаў, якімі Масква мацуе ня толькі свае пазыцыі ўздоўж кітайскае мяжы, але й аплачвае кубінскае войска ў Анголі ды Афрыканскім Розе, выдаткуецца на свой ваенны флёт у Індыйскім акіяне, фінансуе сутычкі Ветнамцаў з Кампучыяй (Камбоджай) ды раськідаецца грашыма й зброяй на арганізацыю забурэньняў па іншых частках сьвету.

За ўсе гэтыя імпэрыялістычныя амбіцыі й камбінацыі Крамля мусіць расплачвацца, разам зь іншымі паняволенымі народамі Савецкага Саюзу, і Беларускі Народ коштам мізэрна нізкога ўзроўню свайго матар'яльнага быту ды цаною гвалту над беларускай нацыянальнай культураю.

Русыфікацыйная палітыка савецкага рэжыму на Беларусі — прышчапляньне расейшчыны, імпэрскае сьведмасьці ды хвальшывае ідэі ўяўнае місіі ратаваньня чалавецтва — гэта нічога іншага, як мэтад Крамля трымаць у падпарадкаванасьці падбіты народ, каб гэтак лягчэй высмоктваць зь яго матар'яльныя й людзкія рэсурсы на жыўленьне свае экспаньсіі.

Русыфікацыя — гэта ня толькі анастэтычны наркотык, якім прытупляецца разуменьне эканамічнага рабаўніцтва краю; праводжаная ў дачыненьні да Беларускага Народу з собскай тысячагадовай культурай русыфікацыя становіць абсалютнае зло, як гвалт над прыродным правам Беларускага Народу разьвіваць свабодна свае духовыя й маральныя вартасьці ды перадаваць іх маладому пакаленьню.

Тое, што назіраецца на Беларусі апошнімі дзесяцігодзьдзямі — немагчымасьць карыстацца роднай мовай шмат дзе ў адміністраваньні краю, а таксама ў шмат якіх формах навукі й культуры, немагчымасьць даваць беларускай моладзі вышэйшую, а часта й сярэднюю асьвету ў роднай мове — становіць найбольш пачварны выяў расейскага каляніялізму на Беларусі, выяў гвалту над найбольш фундамэнтальным правам і цэлага народу і кажнага паасобнага грамадзяніна, становіць форму генацыду, асуджанага міжнароднай канвэнцыяй Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў (канвэнцыяй, якую цынічна падпісаў і савецкі ўрад).

Непадзельнасьць права чалавека й права нацыі на свабоду культуры пачынае цяпер прызнавацца штораз шырэй палітычнымі дзейнікамі заходніх дзяржаваў, як пра гэта сьветчаць нядаўна праведзеныя канфэрэнцыі ў Люцэрне ў Швайцарыі ды ў Дзяржаўным Дэпартаманьце ЗША ў Вашынгтоне. І запраўды, там, дзе паняволены чалавек, ня можа быць свабоднай нацыя, і там, дзе ўрад, як у Савецкім Саюзе, кідае ў турмы (або „псыхушкі") чалавека за абарону індывідуальных ці нацыянальных правоў, там у турме — у турме народаў — і цэлая нацыя.

Рада Беларускае Народнае Рэспублікі на 60-я ўгодкі ад абвешчаньня незалежнасьці Беларусі заяўляе йшчэ раз, што сяньня, як і ў 1918 годзе, найлепшая гарантыя дзеля забясьпечаньня Беларускаму Народу максымуму матар'яльнага, культурнага й духовага дабрабыту — гэта свая незалежная дзяржава, Беларуская Народная Рэспубліка.

Як дагэтуль, так і надалей Рада БНР будзе імкнуцца выканаць ускладзены на яе абавязак дасягненьня дзяржаўнае незалежнасьці й непадзельнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі згодна з Актам 25-га Сакавіка 1918 году.

**Нью-Ёрк, 25 сакавіка 1978 году.**

**Рада Беларускае Народнае Рэспублікі**

# 60 ГОД ЗМАГАНЬНЯ ЗА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ

**(Асьветчаньне Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня й Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі на 60-я ўгодкі змаганьня за Беларускую Народную Рэспубліку, якое хутка выйдзе друкам у ангельскай мове й будзе рассылацца дзяржаўным, палітычным і грамадзкім дзейнікам Амэрыкі на працягу сёлетняга юбілейнага году).**

Змаганьне за Беларускую Народную Рэспубліку сягае сваймі каранямі да важных падзеяў у найнавейшай гісторыі Беларусі, 60-я ўгодкі якіх мы сёлета ўрачыста сьвяткуем. Найважнейшымі ключавымі мамэнтамі гэтых падзеяў быў Першы Ўсебеларускі Кангрэс, скліканы на дэмакратычных асновах у сьнежні 1917 году ў Менску, і Акт 25 Сакавіка 1918 году, якім Рада Беларускае Народнае Рэспублікі, выбраная згаданым Кангрэсам, абвесьціла Беларусь вольнай і незалежнай дзяржавай на ўсёй этнаграфічнай тэрыторыі нашага краю. Гэткім парадкам, Акт 25 Сакавіка 1918 году быў беспасярэднім вынікам Першага Ўсебеларускага Кангрэсу й ягоным далейшым працягам. Абедзьве гэтыя падзеі былі найвышэйшым выявам і зваротнымі пунктамі нацыянальна-вызвольнага змаганьня Беларускага народу, ведамага ў нашай нацыянальнай гісторыі як Беларуская Нацыянальная Рэвалюцыя.

У вадрозьненьне ад Беларускай Нацыянальнай Рэвалюцыі, што несла народу вольнае й незалежнае дзяржаўнае жыцьцё, Кастрычніцкая рэвалюцыя, 60-я ўгодкі якой шумна адзначаліся ў Савецкім Саюзе на працягу ўсяго леташняга году, наадварот, замацоўвала паняволеньне Беларускага народу, накінутае фізычнай сілай царскай Расеяй яшчэ напрыканцы XVIII стагодзьдзя. Беларуская Нацыянальная Рэвалюцыя была выяўленьнем волі Беларускага народу й ягоных запаветных імкненьняў, якія ўпяршыню былі сфармуляваныя правадыром беларускага антырасейскага паўстаньня 1863 году Кастусём Каліноўскім ды пашыраныя й папоўненыя ў працэсе далейшага разьвіцьця беларускага нацыянальнага руху канца XIX — пачатку XX стагодзьдзяў. Канчальнаю мэтаю Беларускае Нацыянальнае Рэвалюцыі было поўнае аддзяленьне Беларусі ад Расеі й адбудаваньне незалежнае беларускае дэмакратычнае дзяржаўнасьці. Тае дзяржаўнасьці, што ў сівую даўніну зьзяла зыркім блескам у форме Полацкага Княства, а ў эпоху Вялікага Княства Літоўскага тварыла найвялікшую палітычную, культурную й мілітарную магутнасьць на цэлым Усходзе Эўропы.

Зусім нармальна й зразумела, што юбілейныя сьвяткаваньні 60-х угодкаў Першага Ўсебеларускага Кангрэсу й Акту 25 Сакавіка сярод Беларусаў у Вольным Сьвеце выліваюцца ў маніфэставаньне беларускае нацыянальна-вызвольнае ідэі — з аднаго боку, а з боку другога — гучаць гнеўным пратэстам супраць усіх народных крыўдаў, што прынесла Кастрычніцкая рэвалюцыя ды якія пад лёзунгамі гэтае рэвалюцыі робяцца Беларускаму народу аж да апошняга часу.

Творцы, правадыры, удзельнікі й спадкаемнікі Беларускай Нацыянальнай Рэвалюцыі разглядалі Кастрычніцкую рэвалюцыю й бальшавізм, як чужыя й варожыя Беларускаму народу зьявы, прынесеныя на Беларусь супраць народнае волі чырвонай арміяй і замацаваныя ейнымі штыкамі. Гэты імпартаваны характар бальшавізму на Беларусі пацьвярджаюць і савецкія партыйныя гісторыкі. З цэлага мноства гэткіх пацьверджаньняў прывядзём тут адно: былага міністара МВД БССР Л. Цанавы ў другім томе працы „Всенародная партизантская война в Белоруссии против фашистских захватчиков", што выйшаў у 1951 годзе ў Менску. Кажучы пра ўстанаўленьне савецкай улады на Беларусі ды цьвердзячы, што быццам яна **„была адзінай законнай уладай"**, Л. Цанава прызнаваў, што **„перамогу савецкай улады на Беларусі ў значнай меры забясьпечыла тая акалічнасьць, што тут праходзіў Заходні фронт, на якім былі сканцэнтраваныя масы работнікаў і сялянаў цэнтральных раёнаў Расеі, апранутых у жаўнерскія шынэлі"** (бач. 726).

Чужацкае паходжаньне Кастрычніка й бальшавізму на Беларусі вымоўна пацьвердзілі найвялікшыя беларускія нацыянальныя паэты гэнага часу Янка Купала, Якуб Колас, Зьмітрок Бядуля, Алесь Гадун ды пісьменьнік Максім Гарэцкі ў сваіх творах 1917-1922 гадоў, калі было яшчэ магчыма прапхнуць у друк і творы зырка варожыя да бальшавізму.

Магутны супраціў Кастрычніцкай рэвалюцыі й бальшавізму праявілі мовай зброі антыбальшавіцкія паўстаньні на Беларусі, што былі ахапіўшы сваім пажарам амаль увесь край, а іхным кульмінацыйным пунктам было славутае Слуцкае паўстаньне напрыканцы 1922 году. Канкрэтнай мэтай гэтага паўстаньня была абарона й умацаваньне Беларускае Народнае Рэспублікі, абвешчанае 25 сакавіка 1918 году.

Пастановы Першага Ўсебеларускага Кангрэсу й Акту 25 Сакавіка, хоць і былі бальшавікамі пагвалчаныя, засталіся аднак запаветнай ідэяй Беларускага народу на працягу ўсяго пазьнейшага часу аж да сяньня. У вернасьці гэтай ідэі й перахоўваньні яе ў сваёй сьвядомасьці Беларускі народ праявіў сваю духовую моц і творчую патэнцыю.

У 1971 годзе пачалася ў Савецкім Саюзе новая, больш безаглядная, чымся раней, фаза русыфікацыі пасьля таго, як генэральны сакратар ЦК КПСС Леанід Брэжнеў у сваім дакладзе на XXIV партыйным зьезьдзе падаў да ведама наступнае: **„За гады сацыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне ўзьнікла новая супольнасьць людзей — савецкі народ".** Цьверджаньні пра ўзьнікненьне гэтага „савецкага народу, як быццам дакананага ўжо факту, былі шырэй і больш канкрэтна разьвітыя ў параграфах новае Савецкае Канстытуцыі, што была прынятая ў леташнім годзе, а ейнае прыняцьцё было ня выпадкова спалучанае з 60-мі ўгодкамі Кастрычніцкае рэвалюцыі.

Але ў супаставе з паняцьцем народ і нацыя, як этнічнымі супольнасьцямі, гэная „новая гістарычная супольнасьць людзей — савецкі народ" ня што іншае, як твораная сілаю дзяржаўнага прымусу найбольш мадэрная, удасканаленая й нязвычайна пэрфідная форма русыфікацыі. Гэны штучны канглямэрат — „савецкі народ" творыцца на расейскай нацыянальнай базе — на базе расейскае гісторыі, расейскае культуры, расейскае мовы, расейскага патрыятызму, расейскага імпэрыялізму й навет на базе традыцыйнага расейскага мэсыянізму ў ягонай новай форме, як разьдзьмухваньне сусьветнай пралетарскай рэвалюцыі з мэтаю дасягненьня расейскае гэгэмоніі ў цэлым сьвеце.

Зьмест паняцьця „савецкі народ" — поўная фікцыя. Тым ня менш, партыйныя намаганьні тварэньня гэтае фікцыі — зьява рэальная. Пад цяжарам гэтае зьявы Беларускі народ мае вялізарныя духовыя й фізычныя страты. Гэткая ўжо доля паняволеных народаў у Савецкім Саюзе, дзе, апрача няволі палітычнай, сацыяльнай і каляніяльнай эканамічнай эксплёатацыі краю, нішчыць і нявечыць народы духова паняволеньне **нацыянальнае,** якое спыняе натуральнае разьвіцьцё духоўных каштоўнасьцяў народу.

Ды дарма! У вадказ на насіленьне й улегалізаваньне русыфікатарскага шалу беларуская патрыятычная інтэлігенцыя таксама ўзмоцніла свой супраціў русыфікацыі й запачаткавала навет новую фазу нацыянальнага ўздыму. Выкарыстоўваючы нагоду, што Камуністычная партыя абвесьціла бягучую дзесятую пяцігодку пяцігодкай якасьці й эфэктыўнасьці, беларуская патрыятычная інтэлігенцыя абвесьціла таксама, хоць, зразумела, не фармальна, затое фактычна, што найважнейшай перадумовай павышэньня якасьці й эфэктыўнасьці ўва ўсіх галінах духовае культуры павінна быць арыентаваньне на свае собскія нацыянальныя каштоўнасьці й нацыянальную спадчыну Беларускага народу. У літаратуры й ува ўсіх галінах мастацтва, у розных зьявах духовае культуры адбываецца сяньня выразны працэс новага звароту да нацыянальных вытокаў: да нацыянальнае гістарычнае мінуўшчыны, да жыватворных традыцыяў народнае творчасьці, да свае роднае беларускае мовы ды некаторых спробаў ейнае дэрусыфікацыі. Гэты ціхі й даволі асьцярожны, із зразумелых прычынаў, працэс выростае сваймі каранямі таксама зь ідэяў Першага Ўсебеларускага Кангрэсу й Акту 25 Сакавіка.

У ваблічы павялічанай загрозы для існаваньня Беларускага народу, як апрычонай, самабытнай і паўнавартаснай нацыі, беларуская палітычная эміграцыя добра зразумела свае асноўныя абавязкі перад Бацькаўшчынай і народам. Баронячыся перад савецкай гэнасыднай палітыкай, беларуская палітычная эміграцыя выдатна ўзмоцніла сваю дзейнасьць сярод дзяржаўных, палітычных і грамадзкіх дзейнікаў Вольнага Сьвету, галоўна Амэрыкі, у мэтах здабыцьця большага зразуменьня, сымпатыяў і палітычнага падтрыманьня для Беларускага паняволенага народу й ягоных нацыянальна-вызвольных імкненьняў.

Нельга абмінуць маўчаньнем яшчэ аднэй важнай зьявы, паймення таго, што сярод беларускае моладзі на чужыне штораз больш маладых Беларусаў і Беларусак, у бальшыні сваёй народжаных вонках краю свайго паходжаньня й узгадаваных у чужой школе, узбройваюцца пачуцьцямі шчырага й гарачага беларускага патрыятызму, вяртаюцца да мовы сваіх бацькоў, часамі ўжо забытай імі, і актыўна далучаюцца да беларускага нацыянальнага жыцьця. А моладзь — гэта натуральная зьмена старэйшага беларускага пакаленьня. Ад ейнае духовае якасьці будзе залежыць і якасьць беларускай нацыянальнай дзейнасьці на чужыне ў найбліжэйшай будучыні.

**ГАЛОЎНАЯ ЎПРАВА БАЗА** **ГАЛОЎНАЯ ЎПРАВА АБАМ**

**Нью Ёрк, у сакавіку 1978 году**

# КАНФЭРЭНЦЫЯ У ДЗЯРЖАУНЫМ ДЭПАРТАМАНЬЦЕ

Дзяржаўны Дэпартамант ЗША правёў у Вашынгтоне 27-28 лютага сёлета ўсеамэрыканскую канфэрэнцыю, прысьвечаную пытаньням замежнае палітыкі ЗША й людзкіх правоў. У канфэрэнцыі ўзяло ўдзел больш за пяцьсот прадстаўнікоў амэрыканскіх няўрадавых — грамадзкіх, прафсаюзных, жаноцкіх, этнічных, нэгрыцянскіх, індзейскіх, навучальных ды іншых — установаў, а таксама Дэмакратычнае ды Рэспубліканскае партыяў. Узялі ўдзел у канфэрэнцыі таксама й прадстаўнікі нацыянальнасьцяў Цэнтральнае й Усходняе Эўропы, у тым ліку й беларускае. Ад імя Беларусаў на канфэрэнцыі была дэлегацыя Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (Вітаўт Кіпель, Рая Станкевіч, Янка Запруднік) і прадстаўнік Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі (а. С. Коўш).

Мэтай канфэрэнцыі было зрабіць агляд поступу ў галіне абароны людзкіх правоў у сьвеце ад часу падпісаньня ў 1975 годзе Гэльсынкаўскага пагадненьня ды азнаёміць Дзяржаўны Дэпартамант з паглядамі й пажаданьнямі амэрыканскага грамадзтва што да будучага кірунку замежнае палітыкі ЗША ў сфэры людзкіх правоў.

У сваім дакладзе на пленарным паседжаньні ўдзельнікаў канфэрэнцыі заступнік дзяржаўнага сакратара ЗША Ўорэн Крыстафэр, падсумоўваючы стан людзкіх правоў у сьвеце за мінулы год, сказаў, што, не зважаючы на ўсе цяжкасьці й нястачы, прагрэс у галіне свабоды магчымы ды відавочны, хоць і невялікі тымчасам, ды што палітыка амэрыканскага ўраду будзе й надалей засяроджаная на гэтай праблеме.

Сп. Крыстафэр адзначыў, што амэрыканскі ўрад стаіць таксама перад праблемай людзкіх правоў у сваёй собскай краіне, праблемы гэтае не хавае перад іншымі народамі ды гатовы адкрыта абмяркоўваць яе й шукаць шляхоў да палепшаньня.

Заступнік дзяржаўнага сакратара да эўрапейскіх справаў Джордж Вэст, адзін з дэлегатаў ЗША на Белградзкай канфэрэнцыі, на якой рабіўся агляд ужыцьцяўляньня Гэльсынкаўскага пагадненьня, адзначыў у сваім выступленьні своеасаблівы характар Белградзкае канфэрэнцыі. Канфэрэнцыя гэная, сказаў ён, сталася форумам, на якім урады камуністычных дзяржаваў, у ваблічы цэлага сьвету, **змушаныя** былі займацца разглядам стану людзкіх правоў у сваіх краінах — займацца праблемай, ад якое ніякай працэдуральнай прыхваткай не ўцячэш і не накладзеш на разгляд вэта. Стварыўся стан, сказаў сп. Вэст, якога Савецкі Саюз, відавочна, не прадбачыў. Савецкая дэлегацыя ў Белградзе затым галоўны націск рабіла на тое, каб прытупіць крытыку з боку заходніх дзяржаваў ды адхіліць канкрэтныя прапановы Захаду, скіраваныя на пашырэньне заходня-ўсходніх кантактаў.

На канфэрэнцыі ў Вашынгтоне прадстаўніком Дзяржаўнага Дэпартаманту давялося выслухаць цімала крытыкі на адрыс амэрыканскага ўраду за недаволі наважаную абарону людзкіх **і нацыянальных** правоў, асабліва ў краінах Цэнтральнае й Усходняе Эўропы. У шмат якіх выступленьнях, у тым ліку й беларускіх дэлегатаў, клаўся націск на неразлучную ўзаемасувязь паміж правамі індывідуальнага грамадзяніна й нацыянальна-культурнымі правамі цэлага народу ў сувязі з русыфікацыйнай палітыкай савецкага ўраду. Было выказанае таксама пажаданьне, каб у амэрыканска-савецкім культурным абмене (шырака пра гэта гаварыў у сваім судакладзе праф. Томас Э. Бэрд з Квінскага каледжу зь Нью Ёрку) больш увагі было прыдзелена нерасейскім нацыянальнасьцям СССР дзеля лепшага азнаямленьня зь імі амэрыканскага грамадзтва.

Канфэрэнцыя прыняла шэраг рэзалюцыяў, у тым ліку й рэзалюцыю аб неразлучнасьці людзкіх правоў з правамі нацыянальнымі, ды перадала іх афіцыйна Дзяржаўнаму Дэпартаманту дзеля магчымага ўжыцьцёўленьня.

Як паінфармаваў прадстаўнік Дзяржаўнага Дэпартаманту, падобныя канфэрэнцыі будуць праводзіцца ў будучыні.

**Я. З.**

## ПАДЗЯКА

За ўдзел і дапамогу ў цяжкія хвіліны выказваем шчырую падзяку а. прат. Аляксандру Кулакоўскаму, усім тым, хто спрычыніўся да прыгатаваньня памінкавага абеду, усім суродзічам і знаёмым, што прыслалі свае спачуваньні, зложылі кветкі або сваёй прысутнасьцяй на паховінах аддалі пашану нашаму дарагому мужу, бацьку, дзеду сьвятой памяці Алесю Салаўю-Кадняку.

**Жонка, Зінаіда Кадняк, дзеці, унукі.**

# СЭНАТАР РОБЭРТ ДОЛ – ГАСЬЦЁМ НА САКАВІКОВЫМ СЬВЯЦЕ У ВАШЫНГТОНЕ



**Зьлева направа: Мічэль Кабэлінскі, Вітаўт Кіпель, Матушка Гэлена Войтанка, Спадарыня Мэры Крысп, а. Расьціслаў Войтанка й Антон Шукелайць**

Сакавіковая ўрачыстасьць з нагоды 60-цігадовага юбілею абвешчаньня дзяржаўнае незалежнасьці Беларусі ў сталічным Вашынгтоне была зарганізаваная Радай Беларускае Народнае Рэспублікі, Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем і Фэдэрацыяй Беларускіх Рэспубліканскіх Клюбаў. Яна адбылася 20 і 21 сакавіка сёлета. У сталіцы ЗША гэта было першае шырэйшае адзначаньне сакавіковых угодкаў і прайшло яно надзвычай удала.

У панядзелак 20 сакавіка ў клюбе Капітолю ў суседзтве з будынкам Кангрэсу ЗША беларускі нацыянальны сьцяг побач з амэрыканскім упрыгожвалі вэстыбюль гэтага добра ведамага клюбу, гасьцьмі якога былі дзясяткі й дзясяткі амэрыканскіх прэзыдэнтаў.

А 6-ай гадзіне ўвечары ў залі імя Прэзыдэнта Двайта Айзэнгаўэра д-р Вітаўт Кіпель адчыніў урачыстасьць, прысьвечаную Дню Беларускай Незалежнасьці, гэткімі словамі: **„Пачатак вясеньняга сэзону, месяц сакавік, супадае зь вясной палітычнай, падчас якое ў 1918 годзе Беларусь была адна зь першых дзяржаваў, што выявіла волю свайго народу — абвесьціла дзяржаўную незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі. Ідэя гэтая жыве й сяньня. І сяньня мы яе прыпамінаем і ўшаноўваем".**

Сваё ўступнае слова закончыў д-р Кіпель гэтак: **„Палітычныя й людзкія правы, якія дыскутуюцца сяньня ў Вашынгтоне, беларускім народам былі выказаныя для Беларусі 3-яй Устаўной Граматай — Актам 25 сакавіка 1918 году. Сяньня ў Вашынгтоне мэтазгодна гэты дакумант прыпомніць".** Сп-чня Алеся Кіпель прачытала ў ангельскім перакладзе тэкст 3-яе Устаўное Граматы БНР.

Сьледам за гэтым д-р Кіпель прывітаў прыбылага зь Нью Ёрку старшыню Галоўнай Управы БАЗА Антона Шукелайця ды падзякаваў палкоўніку Дэю Немчыку, дырэктару Рэспубліканскіх Нацыянальных Клюбаў за дапамогу пры тэхнічнай арганізацыі беларускае нацыянальнае ўрачыстасьці ў Вашынгтоне.

Затым выступіў з прывітаньнем сп. Мітчэль Кабэлінскі, госьць з Чыкага. Сп. М. Кабэлінскі, ранейшы дырэктар Адміністрацыі Малога Бізнэсу, а цяперашні старшыня Фэдэрацыі Рэспубліканскіх Нацыянальных Клюбаў, вітаючы Беларусаў з днём іхнае незалежнасьці, прыгадаў, як ідэя незалежнасьці блізкая духу амэрыканскага грамадзтва, асабліва-ж блізкая гэтая ідэя народам, што яе здабылі параўнаўча нядаўна, як Ірляндцы, Італьянцы, Палякі, Балтыйскія народы ды іншыя. **„І як паказвае гісторыя, ідэя незалежнасьці заўсёды перамагае",** — закончыў сваю прамову сп. М. Кабэлінскі.

Наступным прамаўляў кангрэсмэн Эдвард Дэрвінскі. Ён зазначыў, што **„сьвята незалежнасьці Беларусі — гістарычная падзея. Мы яе ўрачыста адзначаем і сьцьвярджаем, што нічога ня можа падмяніць незалежнасьці дзяржавы".**

Спадарыня Мэры Крысп — віцэ-старшыня Рэспубліканскае партыі Амэрыкі, вітаючы Беларусаў з Днём Незалежнасьці Беларускага народу, зазначыла, што яе асабліва цешыць на сяньняшняй урачыстасьці прысутнасьць моладзі ў нацыянальных касьцюмах ды ейнае разуменьне значаньня 25 Сакавіка ў гісторыі Беларусі. Дарэчы, на сьвяткаваньні ў Вашынгтоне сярод каля 150 гасьцей сябры Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі ўзапраўды вызначаліся сваёй паважнасьцяй і ўпрыгожаным аўтэнтычнымі народнымі ўзорамі нацыянальным адзеньнем. За гэта ім і іхнай арганізацыі высокае прызнаньне й шчырая падзяка.



**Сябры Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі з Кангрэсмэнам Эдвардам Дэрвінскім.**
**Зьлева направа: Васіль Бойчук, Ната Русак, Кангрэсмэн Эдвард Дэрвінскі, Алеся Кіпель, Нік Швэд, Рагнеда Гутырчык і Юрка Кіпель**

Сэнатар Боб Дол прыбыў на сьвяткаваньне беспасярэдня з паседжаньня Сэнату й быў заключным прамоўцам уступнае часткі вечара. Як ведама, сэнатар Дол зьяўляецца сябрам Камісіі па Супрацоўніцтву й Бясьпецы ў Эўропе ды быў сябрам Амэрыканскае Сэнацкае Дэлегацыі на Канфэрэнцыі ў Белградзе. На беларускай урачыстасьці ў Вашынгтоне сэнатар Дол сваю прамову закончыў словамі: **„Я ўважаю, што канфэрэнцыя ў Белградзе не дасягнула сваіх мэтаў, бо ў канчатковым ейным дакумэньце не ўспамінаецца ні аб людзкіх правах, ні аб самавызначэньні народаў. Тымчасам-жа палітычнае самавызначэньне набывае асаблівае вагі якраз сяньня, бо вось, прыкладам, Вы адзначаеце 60-я ўгодкі самавызначэньня Вашага народу, і гэта гістарычны факт!"** Далей сэнатар зазначыў, што людзкія правы й правы палітычныя — неразлучныя й яны павінны быць падтрыманыя.

У знак удзячнасьці за прыязныя дачыненьні сэнатара Дола да беларуска-амэрыканскага грамадзтва ды ягонае наважанае падтрымоўваньне вызвольных імкненьняў паняволеных народаў, ад імя Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня сп-чня Алеся Кіпель паднесла сэнатару ў падарунку прыгожы альбом, вышыты беларускім нацыянальным арнамэнтам з адпаведнай дэдыкацыяй.

Пасьля ўступнае афіцыйнае часткі адбылося прыняцьцё ды знаёмствы гасьцей міжсобку, вымена ўражаньняў і аналізаваньне падзеяў 1918 году. Ушанавалі сваёй прысутнасьцяй беларускую ўрачыстасьць гэткія арганізацыі й установы: Дзяржаўны Дэпартамант ЗША, Міністэрства Асьветы й Камунальнага Будаўніцтва, прадстаўнік Адміністрацыі Вэтэранаў, дэлегацыя Украінскага Кангрэсавага Камітэту, Украінскага Інфармацыйнага Цэнтру, Украінскіх Юрыстых, Асацыяцыі Вывучэньня СССР, прадстаўнікі Сусьветнай Лігі Балтыйскіх Народаў, Славацкага Сусьветнага Кангрэсу, Асацыяцыі Амэрыканскіх Настаўнікаў, Польскага Кангрэсавага Камітэту, арганізацыі Сыны Італіі, прадстаўнікі Румынаў, Сэрбаў, Харватаў, Грэкаў, Армянаў, Баўгараў, Лятувісаў, Латышоў, Эстонцаў, Чэхаў, Кубінцаў, старшыня Асацыяцыі Амэрыканскіх Студэнтаў, высокія дзеячы Рэспубліканскае й Дэмакратычнае партыяў, прафэсары Унівэрсытэту Джорджтаўн у Вашынгтоне, Палітычнага Інстытуту Вірджыніі, Мэрылендзкага ўнівэрсытэту ды Амэрыканскае Асацыяцыі Этнічных Групаў. Пісьмовыя прывітаньні былі атрыманыя ад некалькіх сэнатараў і кангрэсмэнаў, Асацыяцыі Польскіх Настаўнікаў ды ад палітычнага расейскага дзеяча Юрага Мэйера, які сваё прывітаньне закончыў гэтак: **„Пішу і вітаю Вас і ўсіх Беларусаў зь гістарычным юбілеем Вашага Народу".** Праграма вечару была запісаная на магнітафонную йстужку радыястанцыяй „Свабода" дзеля перадачы яе на бацькаўшчыну. За арганізацыю гэтага вечара перадусім належыцца падзяка Беларуска-Амэрыканскаму Задзіночаньню — ягонай Галоўнай Управе ды Аддзелам у Нью Ёрку й Нью Джэрзі, Сэктару Рады БНР ды Беларусам Вашынгтону, Вірджыніі, Мэрыленду, Дэлевэру й Пэнсыльвэніі за тэхнічную дапамогу й падрыхтаваньне самое імпрэзы.

У аўторак 21 сакавіка а. Расьціслаў Войтанка адчыніў сэсію Кангрэсу ЗША малітвай за Беларусь ды разам з прадстаўнікамі Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі адведаў сп-ню М. Фэнўік — кангрэсмэнку з акругі Самэрсэт у штаце Нью Джэрзі, дзе пражывае значная колькасьць Беларусаў.

**Прысутны**

# ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ У КЛІЎЛЕНЬДЗЕ

Сьвяткаваньне 60-х угодкаў Дня Беларускае Незалежнасьці ў Кліўленьдзе адбылося 2 красавіка сёлета. Было яно зарганізаванае й кіраванае мясцовым Аддзелам Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня. Сьвяткаваньне гэтае было сёлета шматлюднае й асабліва ўрачыстае. Госьці пачалі зьяжджацца ўжо напярэдадні — у сыботу як з ваколіцаў гораду, гэтак і з суседняе Пэнсыльвэніі й Дэтройту, так што ў нядзелю падчас угодкавае Божае Службы ў катэдральным саборы БАПЦ Жыровіцкае Божае Маці бадайшто й не хапала месца.

Урачыстую Божую Службу адправіў Яго Высакапраасьвяшчэнства Мітрапаліт БАПЦ Андрэй у суслужэньні настаяцеля Кліўлендзкае парахвіі а. Рыгора, настаяцеля парахвіі БАПЦ у Дэтройце а. Максіма ды а. дыякана Міхася Страпка. Уладыка Андрэй у сваёй казані шырака азначыў шлях змаганьня беларускага народу за незалежнасьць свае бацькаўшчыны. Пасьля Багаслужбы ў прыгожа ўдэкараванай царкоўнай залі адбыўся супольны для парахвіянаў і гасьцей абед, падрыхтаваны спадарынямі К. Калядой, О. Стрэчань, М. Міхальчык і М. Гумен.

Урачыстая акадэмія, прысьвечаная сакавіковым угодкам, пачалася папаўдні амэрыканскім гімнам, прыгожа прапяяным сп-няй Ірай Калядой-Сьмірновай, ды малітвай Уладыкі Андрэя. Асноўны даклад на тэму дня прачытаў д-р В. Кіпель, які, праананалізаваўшы гісторыю беларускае палітычнае эміграцыі ў ЗША, дэтальна засярэдзіўся на аспэктах беларускае палітычнае дзейнасьці сяньня. За мінулыя два гады, зазначыў дакладчык, беларуская прысутнасьць была шырака заманіфэставаная ў шмат якіх штатах ЗША. У сувязі з адзначаньнем 200-гадовага юбілею ЗША, адбылося значнае ажыўленьне й у беларускім грамадзкім жыцьці. Аднак адных толькі выказваньняў сяньня недастаткова. Беларуская палітычная думка ў Амэрыцы сяньня павінна ня толькі выказвацца, але й стаўляць свае палітычныя дамаганьні.

Пасьля гэтага выступалі прысутныя на сьвяткаваньні госьці. Асабліва шчырымі й зьмястоўнымі былі прамовы рэпрэзэнтанта бурмістра гораду, ягонага брата Гэры Кусыніча й былога раднага гораду Тодара Сьліўкі. Гэры Кусыніч зазначыў, што ён, гэтак і бурмістр гораду, будучы харвацкага паходжаньня добра разумеюць палітычныя дамаганьні Беларусаў Амэрыкі ды падзіўляюць наважанасьць і адвагу як Беларусаў, гэтак і Харватаў ды іншых паняволеных народаў, што змагаюцца за свае нацыянальныя правы там на бацькаўшчыне.

Сп. Тодар Сьліўка, прывітаўшы прысутных, даўжэй затрымаўся на аспэктах сяньняшняе замежнае палітыкі ЗША й асабліва падчыркнуў непасьлядоўнасьць і шкоднасьць усяе канцэпцыі „дэтанту" ды будаваньня мастоў дзеля супрацоўніцтва з таталітарнай савецкай імпэрыяй. У далейшым прывітаў прысутных інж. Янка Бруцкі ад Аддзелу БАЗА ў Дэтройце. Былі прачытаныя пісьмовыя прывітаньні ад старшыні Галоўнае Управы БАЗА сп. Антона Шукелайця, ад Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады (падпісанага ягоным сакратаром д-рам Раісай Жук-Грышкевіч), ад Беларускіх Вэтэранаў і д-ра Я. Сажыча. Таксама была прачытаная праклямацыя Губэрнатара штату Огаё, якой дзень 25 сакавіка быў абвешчаны Днём Незалежнасьці Беларусі ў гэтым штаце.

Асабліва энтузыястычна была ўспрынятая прачытаная на сьвяткаваньні Рэзалюцыя Кангрэсу ЗША у гонар 60-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі. Рэзалюцыя гэтая была прынятая на прапанову кангрэсмэнкі Розы Окар, якая рэпрэзэнтуе дыстрыкт Кліўленду, дзе жыве шмат Беларусаў. (Фатакопія гэтай Рэзалюцыі зьмешчаная вышэй — Рэд.).

Congress of the United States
House of Representatives
Washington, D.C. 20515

For: THE 60TH ANNIVERSARY OF THE PROCLAMATION OF INDEPENDENT BYELORUSSION DEMOCRATIC REPUBLIC

By: CONGRESSWOMAN MARY ROSE OAKAR

WHEREAS, Congress is especially pleased to note the occasion observing the 60th Anniversary of the March 25, 1918 Proclamation of Freedom of Minsk, Byelorussia on Sunday, April 2, 1978; and

WHEREAS, All people of Byelorussian descent join together to make this event a success, although not forgetting that the yoke of Communism hangs heavily on the neck of the Byelorussian people; and

WHEREAS, Freedom-minded people everywhere protest this lack of the right of self-determination for the Byelorussion people, and encourage their fight for independence; now, therefore

BE IT RESOLVED, That the Congress of the United States wishes to congratulate the people of Byelorussian descent on their 60th Anniversary, and thanks them for keeping alive the fight for Freedom.




Мастацкую праграму адчыніла шырака ведамая беларускаму грамадзтву сьпявачка Іра Каляда-Сьмірнова, потым Оля Лукашэвіч з Тацьцянай Кананчук прапяялі некалькі народных песьняў ды жаноцкі хор прапяяў дзьве песьні: „Родная старонка" й „Ручнічкі". Дарэчы заўважыць, што асабліва вялікім посьпехам карысталася песьня „Палескія прасторы", выкананая Оляй Лукашэвіч. Вельмі прыгожа прадэклямаваў верш пабеларуску „За свабоду" вучань беларускае сыботняе школы Алесь Ягаўдзік. Усім музычным выступленьням выдатна акампаньявала сп-ня Гэлена Лук'янчык, дачка ведамых і працавітых сп-ва Анатоля й Натальлі Лук'янчыкаў.

Вяла ўсю акадэмію ў вабедзьвюх мовах ды выдатна спраўлялася з гэтым сваім абавязкам Оля Лукашэвіч, за што прысутныя некалькі разоў яе асабіста ўзнагароджвалі бурай воплескаў. Акадэмія закончылася агульным прапяяньнем беларускага нацыянальнага гімну. Для гасьцей было зладжанае пасьля гэтага сьціплае прыняцьцё.

**В. К.**

### ПРАГРАМЫ РАДЫЯ Й ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ Ў БССР

Як падала газэта „Голас Радзімы" (№ 52 за 1977 г.), на Беларусі чатыры радыястанцыі штадня перадаюць 20 гадзінаў праграмаў ды тры каналы тэлебачаньня перадаюць штадня 32 гадзіны праграмаў. Статыстыка вельмі цікавая. Было-б яшчэ цікавей даведацца, колькі з гэтых гадзінаў перадаецца ў беларускай мове, а колькі ў расейскай, каб пабачыць, якое месца **беларускае** мовы ў **Беларускай** рэспубліцы. Але гэткае статыстыкі „Голас Радзімы", дый ніякая іншая партыйная газэта, ніколі не апублікуе, хаваючы перад чытачамі русыфікацыю й запраўдны стан рэчаў на Беларусі.

# БАЛЬШАВІКІ ПРА УГОДКІ БНР У КАНГРЭСЕ ЗША

Перад намі нумар 12-ы за 23 сакавіка сёлета выдаванай у БССР, але пашыранай, навет бясплатна, вылучна сярод беларускай эміграцыі ў Вольным Сьвеце, бальшавіцкай газэціны „Голас Радзімы". У гэтым нумары знаходзім хлусьліва-правакацыйны артыкул Уладзімера Бягуна, ведамага прафэсыйнага бальшавіцкага паклёпніка на беларускіх палітычных эмігрантаў.

Адразу варта зьвярнуць увагу на дзьве дэталі, якія, як пабачым далей, маюць не апошнюю сваю вымову: першае, артыкул Уладзімера Бягуна зьмешчаны на расейскай мове пад загалоўкам „Селективный гуманизм", хоць газэціна „Голас Радзімы" выдаецца ў васноўным на беларускай мове; другое, артыкул гэты зьявіўся якраз напярэдадні 60-х угодкаў абвешчаньня дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі Радай Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 году.

Спачатку Бягун прыводзіць колькі прыкладаў пра тое, як Задзіночаныя Штаты Амэрыкі пасьля мінулай вайны „прыгалубілі" ў сябе г. зв. „ваенных праступнікаў" з акупаваных Саветамі сатэлітных краёў Сярэдня-Ўсходняй Эўропы, „пазволілі стварыць свае арганізацыі, прыстроілі да работы. Таму, што яны — антыкамуністыя". Гэта толькі ўводная частка артыкулу, на фоне якой галоўная ўвага прысьвечаная Беларусам. Прывядзём гэтую частку артыкулу поўнасьцяй:

„Папалі туды, хоць і ў нязначнай колькасьці, і ваенныя праступнікі беларускага паходжаньня. Кажнага году ў сакавіку яны адзначаюць „юбілей" абвешчаньня Беларускай народнай рэспублікі — таго буржуазна-нацыяналістычнага выкідыша, які памёр, ледзь нарадзіўшыся на сьвет у 1918 годзе. Гэтыя спэктаклі нікога ня зьдзіўляюць і не хвалююць — трэба-ж чымсьці забаўляцца палітыканам, што зьехалі з глузду. Заслугоўвае ўвагі іншае — тое, што „юбілей" злапамятнай БНР сьвяткуецца й у амэрыканскім кангрэсе.

„І вось аднойчы я чытаю несамавіты зьместам дакумант — весьнік амэрыканскага кангрэсу „Конгрэшэнл рыкорд", датаваны 25 сакавіком 1975 году. У ім гаворыцца, што сябры палаты рэпрэзэнтантаў „урачыста сьвяткавалі" 57-я ўгодкі БНР. Інакш кажучы, прыймалі ўдзел у выразна правакацыйным антысавецкім мерапрыёмстве, не зважаючы на тое, што ЗША вызнаюць СССР, а Беларусь зьяўляецца сябрам Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў. Перад імі выступіў кангрэсмэн містэр Рой. Ганаруючы гітлераўскіх прыслужнікаў зь Беларусі, ён заявіў: „Амэрыцы яўна пашчасьлівіла, бо яна атрымала ўклад з культурнай спадчыны й гістарычных дасягненьняў беларускага народу . . ." Добры ўклад, калі яго прывезьлі ў Амэрыку забойцы й здраднікі! Але слухайце далей: „Як нацыя, што складае сабой супольнасьць людзей, якія прыбылі ў Задзіночаныя Штаты ў пошуках камфорту й пацехі ад прыгнёту дыктатарскіх рэжымаў іншых краёў, мы вельмі спачуваем цяжкому палажэньню тых, каму даводзіцца жыць у гэтак званых паняволеных краёх сьвету".

„З гэтых напышлівых словаў вынікае, што спадар Рой залічыў нашых катаў у лік прыстойных грамадзянаў ЗША і цяпер пацяшае іх. Ну проста-такі ня містэр Рой, а чульлівая бабулька, што абціраае насы пакрыўджаным унукам . . ."

„А яны ад гэткіх чульлівасьцяў надзьмуваюцца, важнічаюць і хвастаюцца: „А нас прыймалі віцэ-прэзыдэнт і сэнатары!" Узапраўды, прыймалі. „І спадар Ніксан з намі размаўляў". Праўда, была гэткая справа. Ён навет сказаў ім ласкавыя словы: „Амэрыканскае палітычнае жыцьцё патрабуе вас". Ня можа, значыцца, абыйсьціся бязь іх. Словы вылучна дакладныя! Узапраўды, амэрыканскае палітычнае жыцьцё недападуманьня бяз удзелу праступнікаў".

І гэта ўсё, што сказана пра ўгодкі беларускае незалежнасьці. Сказана коратка, але вузлавата! І гэта ў газэціне, прызначанай вылучна для Беларусаў за межамі БССР. Затое дарма было-б шукаць чагосьці падобнага ў прэсе, прызначанай для жыхарства самой Беларусі. Гэтае жыхарства, як ведама, верыць у Амэрыку й зьвязвае зь ёю свае надзеі ў справе ягонага вызваленьня із савецкага „раю". Калі-б нашыя суродзічы на бацькаўшчыне мелі магчымасьць даведацца, што найвышэйшы дзяржаўна-палітычны орган Амэрыкі — Кангрэс ЗША сьвяткуе ўгодкі незалежнасьці Беларусі й выказвае свае спачуваньні паняволенаму беларускаму народу, радасьці іхнай ня было-б канца . . .

Праўда, пра БНР, Першы Ўсебеларускі Кангрэс і Акт 25 Сакавіка пішыцца й на Беларусі, але вылучна, шляхам хвальшаваньня гістарычнай праўды, з мэтай ганьбаваньня сьвяткаваньня Беларусамі Вольнага Сьвету ўгодкаў запраўднай незалежнасьці Беларусі, незалежнасьці нацыянальнай, агульнанароднай, а не партыйнай.

Як ужо згадвалася, артыкул Уладзімера Бягуны ня выпадкова надрукаваны парасейску. Ён прызначаны для старой беларускай эміграцыі, якая ў сваёй праваслаўнай часьці моцна зрусыфікаваная (падобна як каталіцкая часьць гэтае эміграцыі спалянізаваная), што навет чураецца сваёй роднай мовы або й забылася яе ды карыстаецца мовай расейскай. І вось сярод гэтае часьці эміграцыі, што пакінула Беларусь яшчэ перад Першай сьветавай вайной, ёсьць і прасавецкія сымпатыі, галоўна прышчэпленыя ёй дазволенай у ЗША савецкай прапагандай.

Затое нацыянальна сьведамая новая беларуская эміграцыя, што на сваёй скуры адчула бальшавіцкую няволю, крывавы тэрор, канцэнтрацыйныя лягеры й калгасны прыгон, наскрозь антысавецкая. Ніякія бальшавіцкія правакацыі, падобныя да Бягуновых, ня маюць да яе ніякага доступу.

Артыкул Уладзімера Бягуна вымоўна сьветчыць аб тым, наколькі балючая для бальшавікоў прыхільная рэакцыя амэрыканскіх дзяржаўных, палітычных і грамадзкіх дзейнікаў у дачыненьні да нацыянальна-вызвольных імкненьняў беларускага народу. Агульна ведама, што да гэткай рэакці нямала спрычынілася й беларуская палітычная эміграцыя. Адсюль важная высноваа: нашыя стараньні дзеля далейшага здабываньня й замацоўваньня нашых ідэйна-палітычных пазыцыяў у цэлым Вольным Сьвеце, галоўна ў Амэрыцы, павінны стацца нашым найвышэйшым абавязкам!

**Ст. Станкевіч**

# ПАМЁР РЫГОР ШЫРМА

23 сакавіка сёлета на 87-ым годзе жыцьця пасьля цяжкай і працяглай хваробы памёр у Менску выдатны й заслужаны дзеяч беларускага нацыянальнага мастацтва й культуры Рыгор Шырма. На працягу ўсяго свайго творчага жыцьця нябожчык быў ціхім і сьціплым, але няўтомным і вельмі плённым працаўніком на ніве роднае культуры й песенна-музычнага мастацтва. Можна назваць не адну галіну мастацкай, культурнай і грамадзкай дзейнасьці, у якіх ён працавітай, ахвярнай і напоўненай кроўнай любасьцяй да ўсяго свайго роднага дзейнасьцяй дабіўся высокіх дасягненьняў, што займуць пачэснае месца ў гісторыі беларускай культуры.

У вабмежаным газэтным артыкуле нельга закрануць усяго чыста, зробленага гэтым нязвычайным чалавекам для роднай Беларусі. У сувязі з гэтым даводзіцца спыніцца на найважнейшым адно. Гэта тымбольш, што аўтар гэтых радкоў зьмясьціў у 238-ым лютаўскім нумары „Беларуса" за 1977 год даволі абшырны артыкул аб ім і ягонай дзейнасьці на яго 85-ыя ўгодкі, а ў нумары 249-ым за студзень сёлета яшчэ адзін пра яго артыкул, да якіх і адсылаем чытачоў.

У творчай дзейнасьці Рыгора Шырмы вырозьніваюцца два асобныя пэрыяды, вызначаныя гістарычна-палітычнымі абставінамі, у якіх ён жыў і тварыў: пэрыяд заходня-беларускі, калі ён жыў у Заходняй Беларусі, пераважна ў Вільні, што знаходзілася ў межах польскае дзяржавы, і пэрыяд савецкі, калі ў верасьні 1939 году Заходняя Беларусь была далучаная да Беларусі Савецкай. Палітычныя абставіны ў вабодвых гэтых пэрыядах, прынцыпова былі розныя. Аднак поле дзейнасьці Рыгора Шырмы ў кажным зь іх было аднолькавае.

Савецкая прапаганда прадстаўляла, прадстаўляе ды напэўна й будзе прадстаўляць далей Рыгора Шырму, як перакананага камуністага й адданага камуністычнай ідэі ды гарачага савецкага патрыёта. У некралёгу з прычыны ягонае сьмерці, падпісаным найвышэйшымі кіраўнікамі Камуністычнай партыі Беларусі й Ураду БССР чытаем: **„Ня стала вернага сына Камуністычнай партыі й савецкага народу, які аддаў усе свае сілы нашай вялікай Радзіме".** У запраўднасьці-ж ён аддаў усе свае сілы не „вялікай Радзіме" — Савецкаму Саюзу, а Радзіме малой — роднай яму Беларусі. І ейным „верным сынам" быў ён заўсёды, а не Камуністычнай партыі, сябрам якое фармальна стаўся ён толькі ў 1959 годзе! Малады кампазытар-песеньнік Дзімітр Смольскі ў сваім артыкуле на 85-ыя ўгодкі Рыгора Шырмы, маючы на ўвазе ўсю ягоную дзейнасьць, у тым ліку й у Заходняй Беларусі, пісаў: **„Рыгор Шырма — камуніст. І па партыйнай прыналежнасьці, і па сваіх перакананьнях, і па дзейнасьці".** Мы-ж перакананыя, што толькі „па партыйнай прыналежнасьці". Аўтар гэтых радкоў у даваенных віленскіх гадох быў у даволі блізкіх дачыненьнях з Рыгорам Шырмам і моцна перакананы ў тым, што камуністым у тым значаньні, якое надаецца гэтаму слову ў Савецкім Саюзе, ня быў ён ніколі!

Калі-ж ходзіць пра Шырмавы перакананьні, дык у ягонай біяграфіі паза некаторымі зьявамі, дарэчы даволі дробнымі, якія былі няўмольнай данінай часу й абставінам, ня знойдзем абсалютна нічога істотнага, што пацьвярджала-б гэныя камуністычныя перакананьні.

Магчыма сяго-таго можа ўвесьці ў зман тая акалічнасьць, што Рыгор Шырма, як рэдка хто іншы зь дзеячоў беларускай нацыянальнай культуры й мастацтва, быў абчэплены найвышэйшымі савецкімі ардэнамі, удастоены высокіх афіцыйных годнасьцяў ды пастаўлены на чале. пераважна намінальна толькі, важных установаў і арганізацыяў. Трэба не забывацца, што ў Савецкім Саюзе высокія ўзнагароды й старшынствы важных савецкіх установаў даюцца ня толькі за заслугі, паложаныя для партыі, але й у тых выпадках, калі ўзнагароджаны карыстаецца ў жыхарства выняткава высокім аўтарытэтам, здабытым дзякуючы чыста нацыянальнай дзейнасьці, навет такой, што не па душы тэй-жа партыі. Гэтак у выпадку Рыгора Шырмы бадайшто ўсе ўзнагароды, прызнаныя яму за дзейнасьць над разьвіцьцём роднага беларускага мастацтва, калі, з другога боку, тая-ж партыя ў мэтах русыфікацыі не падтрымлівае ні беларускай нацыянальнай культуры, ні беларускай мовы, падмяняючы яе мовай расейскай. Сакрэт гэткай палітыкі ў тым, што партыя нахабна выкарыстоўвае агульна прызнаныя аўтарытэты дзеля сваіх палітычных і прапагандавых мэтаў.

Прыкладам, Рыгор Шырма быў пастаўлены на чале Беларускага таварыства па культурных сувязях з суайчыньнікамі за рубяжом (Таварыства „Радзіма"), як ягоны старшыня, а раней быў старшынём Беларускага таварыства за вяртаньне на радзіму. Хоць гэтыя функцыі, як і ягонае належаньне да рэдакцыйнай калегіі газэціны „Голас Радзімы", былі адно намінальныя, тым ня менш само прозьвішча Рыгора Шырмы, вельмі папулярнае сярод беларускае палітычнае эміграцыі, асабліва із Заходняй Беларусі, служыла добрай прапагандавай прынадай і мела вялікую прыцягальную моц. Цяжка навет дапусьціць, каб Рыгор Шырма ахвотна прыймаў гэтыя й ім падобныя ня вельмі пачэсныя функцыі, але ў савецкіх абставінах адмовіцца ад іх ня мог.

У згаданым нашым артыкуле на 85-ыя ўгодкі Рыгора Шырмы мы пісалі: **„Каб магчы зрабіць нешта карыснае для сваёй запаветнай нацыянальнай справы, за гэтыя магчымасьці ў Савецкім Саюзе трэба дорага, навет вельмі дорага плаціць. Ня быў выняткам ад гэтага агульнага правіла й Рыгор Шырма: плаціў і ён. Плаціў не аднаму, а адначасна двум гаспадаром паняволенай Беларусі: Камуністычнай партыі й „старэйшаму брату — вялікаму расейскаму народу."** І неразумна было-б зьвінавачваць яго за гэта. Тым больш, што гэтая й усе іншыя вымушаныя даніны для „роднай" партыі й ейнай антынароднай палітыкі бясьсьледна шчэзнуць із сьмерцяй Рыгора Шырмы. Затое ўсё ім зробленае для беларускай нацыянальнай справы й роднага мастацтва — гэта здабытак вечны!

Гэтак павінны мы разглядаць усю дзейнасьць Рыгора Шырмы. У гэткай роўніцы разглядаюць яе й найвыдатнейшыя сучасныя беларускія паэты, як могуць сьветчыць хоць-бы два з цэлага мноства прыкладаў. Гэтак у сваім прачулым вершы на 85-ыя ўгодкі Рыгора Шырмы беларускі паэта Ніл Гілевіч пісаў:

Колькі песьняў пявучых
у родных лясох,
Колькі нот непаўторных
у іх галасох,
Колькі тонаў, адценьняў,
ладоў, перабораў, —
Столькі песень у сэрцы
у дзядзькі Рыгора.

Іншы паэта й сакратар праўленьня Саюзу Пісьменьнікаў Беларусі Анатоль Вярцінскі свой першы водгук на сьмерць Рыгора Шырмы закончыў гэткімі словамі: **„Няўміручая народная песьня, якой Рыгор Раманавіч аддаў усё сваё сьвядомае жыцьцё. І няўміручымі, як гэта песьня, будуць заўсёды ў сэрцы й памяці народнай яго сьветлы вобраз, яго авеенае славай імя — Рыгор Шырма".**

Так, нацыянальны патрыятызм Рыгора Шырмы й ягоная бязьмежная любасьць да роднай Беларусі былі ўзапраўды нявычэрпныя. І ўсё тое, што ён, натхненны гэтым патрыятызмам і любасьцяй, стварыў, несьмяротнае. Гэткім будзе запісанае ягонае сьветлае імя ў гісторыі Беларусі.

**Ст. Станкевіч**

# СХОД БЕЛАРУСКАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ПАРАХВІІ СЬВЯТОГА ЮР'Я Ў ЧЫКАГА

26 лютага сёлета адбыўся агульны справаздачна-перавыбарны Сход Беларускай Праваслаўнай Парахвіі Сьвятога Юр'я ў Чыкага. Сход адчыніў старшыня Парахвіяльнай Управы сп. Іван Дзімідзік, пасьля чаго Настаяцель Парахвіі а. Архімандрыт Язэп Строк прачытаў малітву. За старшыню Сходу быў выбраны сп. Даніла Шфэфэль, за сакратара — сп. Мікола Латушкін.

Справаздачу зь дзейнасьці Парахвіяльнай Управы зрабіў ейны старшыня сп. І. Дзімідзік. Ён падаў прычыны, дзеля якіх не адбыўся справаздачна-перавыбарны Сход за 1976 год, які павінен быў-бы адбыцца напачатку 1977 году. Галоўнай з гэных прычынаў было дызэртырства былага настаяцеля Парахвіі а. Мірановіча й у выніку гэтага розныя непаразуменьні сярод парахвіянаў, якія не падзялялі думкі поўнага прысабечаньня былым настаяцелем усіх матарыяльных прыбыткаў Парахвіі ды некаторай царкоўнай маемасьці. Прыкладам, прапалі бясьсьледна ўсе пратаколы й уся перапіска Парахвіі за дзесяцігадовы пэрыяд ейнае дзейнасьці, якія, згодна акту з 18 лютага 1968 году, у абыйме трох папак былі перададзеныя ўступаючым сакратаром Парахвіі М. Латушкінам нававыбранаму сакратару сп. П. Нягоду, а апошні пазычыў іх а. Мірановічу дзеля перагляду і якія быццам-бы перахоўваліся пасьля ў рызьніцы. Бясьсьледна зьніклі й іншыя каштоўныя парахвіяльныя рэчы.

Пасьля некаторы час цягнуўся перабой з царкоўнымі службамі, якія адпраўлялі запрошаныя сьвятары або, часова абняўшы Парахвію, а. Пратаярэй Л. Астроўскі з Кліўленду аж пакуль не абняў Парахвіі а. Архімандрыт Язэп, як сталы настаяцель.

Справаздачу з канцылярыі падаў на Сходзе сакратар Парахвіі П. Нягода, а справаздачу фінансавую — скарбнік сп. А. Новік. Парахвіяльны фінансавы фонд на сяньняшні дзень налічвае грашыма $14,643.50. Акт Рэвізыйнай Камісіі прачытаў ейны старшыня сп. Кастусь Манжула. Камісія сьцьвердзіла правільнасьць вядзеньня касы, а таксама дакладнасьць у перадачы сабраных парахвіяльных складак сакратаром скарбніку.

На прапанову старшыні Сходу ўступаючай Парахвіяльнай Управе было прызнанае абсалюторыюм з падзякай ды з просьбай застацца й на наступную чатырохгадовую кадэнцыю ў дасюлешнім складзе. Усе сябры Парахвіяльнай Управы далі на гэта згоду.

Настаяцель Парахвіі а. Архімандрыт Язэп заклікаў бацькоў прыцягваць да царквы маладое пакаленьне, сьцьвердзіўшы, што гэтая важная справа ў нашым асяродзьдзі моцна занядбаная. Пасьля выступалі ў дыскусыі сп. сп. В. Пунтус, М. Латушкін, К. Манжула, М. Калінік, М. Кулагін, Зубенка, І. Панкевіч і іншыя. Усе яны заклікалі да большай актывізацыі дзейнасьці дзеля ўмацаваньня й росту Парахвіі.

Сход зачыніў, падзякаваўшы Ўправе й прысутным парахвіянам ягоны старшыня Д. Шфэфэль, а Настаяцель прачытаў малітву падзякі Ўсявышняму.

**АД РЭДАКЦЫІ:** Справаздача із Сходу пададзеная паводля ягонага пратаколу за подпісам старшыні Д. Шфэфэля й сакратара М. Латушкіна, фотакопія якога перасланая ў нашую рэдакцыю сакратаром Парахвіяльнай Управы сп. П. Нягодам.

# ПАРАХВІЯЛЬНЫ СХОД БАПЦ У ТАРОНЬЦЕ

У сыботу 18 сакавіка сёлета адбыўся агульны звычайны Сход парахвіянаў БАПЦ Парахвіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Тароньце. Адчыніў яго малітвай а. Максім з Дэтройту. У ліку гасьцей былі таксама д-р Я. Сажыч і інж. Я. Бруцкі з Дэтройту. У прэзыдыюм Сходу былі выбраныя: К. Акула — старшыня, А. М. — сакратар і а. Максім.

Быў прачытаны й прыняты пратакол з апошняга сходу, а сябры Парахвіяльнай Управы Б. Кірка, Мікола й Марыя Ганько гаварылі ў сваіх справаздачах пра гаспадарку й справы Парахвіі ў леташнім годзе. Раней скарбнікам Парахвіі была падрыхтаваная пісьмовая справаздача з грашовае гаспадаркі Парахвіі. Сп. В. Навіцкі асобна падрыхтаваў справаздачу з праверкі грашовых абаротаў Парахвіі.

Пасьля праслуханьня ўсіх справаздачаў і прадыскутаваньня іх, уступаючай управе было прызнанае абсалюторыюм з падзякай. Найбольш часу занялі разважаньні пра праектаваную будову верху будынку царквы. Цяпер гэты будынак мае адзін паверх, даволі цесны для рэлігійных і грамадзкіх патрэбаў. Царква й ЗБК, як собсьнікі будынку ўжо даўно думаюць пра пабудову другога паверху. У фоньдзе ёсьць каля 17 тысячаў даляраў. Але цэны будовы ў Тароньце цяпер вельмі высокія.

На Сходзе быў прадстаўлены адзін плян будовы верху будынку, але сябры пасьля дыскусіі згадзіліся, што ёсьць яшчэ й другая магчымасьць будовы й папрасілі інж. Я. Бруцкага зрабіць і другі плян. Для гэтае мэты была пакліканая камісія, якая як мага хутчэй мае перагледзець абодвы пляны й прадставіць каштарыс праектаваных пабудоваў. У камісію выбраныя сп. сп.: М. Ганько, В. Цялеш, А. М., М. Стальмашок і А. Харавец.

У новую Ўправу Парахвіі выбраныя сп. сп.: Б. Кірка, Марыя й Мікола Ганько, Ул. Цялеш, М. Стальмашок і П. Шышка.

У Рэвізыйную Камісію ўвайшлі сп. сп.: д-р Б. Рагуля, В. Касьцюкевіч і А. М. Пасьля чатырох гадзінаў працы Сход закончыўся супольнай малітвай.

**К. Акула**

# СЬВЯТКАВАНЬНЕ 25 САКАВІКА Ў РЫЧМОНД ГІЛ

60-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі ладзіла Беларуска-Амэрыканскае Аб'еднаньне ў Нью Ёрку ў нядзелю 2 красавіка сёлета.

Раніцаю ў царкве Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычмонд Гіл а. Пётра Саўчыц адслужыў урачыстую Божую Службу й Малебен за Беларускі Народ. Тады ў залі Беларускага Грамадзкага Цэнтру адбылася ўрачыстая акадэмія, прысьвечаная юбілейным угодкам. Рэфэрат аб 60-х угодках прачытаў інж. Іван Касяк. Пасьля была прачытаная Праклямацыя Губэрнатара штату Нью Ёрк Гію Л. Кары, якой дзень 25 сакавіка 1978 году быў абвешчаны Беларускім Днём у штаце Нью Ёрк. Падчас супольнага абеду былі прачытаныя атрыманыя прывітаньні, а таксама было сказана колькі прынагодных прамоваў.

Пасьля заканчэньня афіцыйнае часткі бяседа яшчэ прадаўжалася нейкі час у беларускай сяброўскай атмасфэры.

**В. Ш.**

# "РАСЕЙЦЫ — ЗА СКАСАВАНЬНЕ ІМПЭРЫІ"

Пад гэткім назовам выступае сяньня ў ЗША група, фактычна яшчэ не аформленая арганізацыя, новых расейскіх палітычных эмігрантаў із Савецкага Саюзу, што былі там актыўнымі ў дэсыдэнцкім руху. Ачоленая гэтая група прыбылымі із Савецкага Саюзу ў 1976 годзе мастаком і літаратарам Ігарам Сінявінам і гісторыкам філязофіі паводля прафэсыі Пятром Балдыравам, зь якімі Беларусы Нью Ёрку й Нью Брансьвіку мелі нагоду пазнаёміцца на сёлетнім сьвяткаваньні 60-ых угодкаў змаганьня за незалежнасьць Беларусі ў Нью Ёрку.

Сваю палітычную дзейнасьць і ідэйную плятформу яны публічна падалі да ведама ў ньюёркаўскай арганізацыі „Амэрыканцы за Вызваленьне Паняволеных Народаў", зь якой супрацоўнічаюць. Асновы для гэтага супрацоўніцтва абвесьціў Ігар Сінявін ад імя групы новых расейскіх эмігрантаў спачатку на паседжаньні Рады Дырэктароў арганізацыі „Амэрыканцы за Вызваленьне Паняволеных Народаў", якое адбылося ў Нью Ёрку 12 чырвеня 1977 году. Пасьля грунтоўнага прадыскутаваньня іхнае заявы была яна адобраная прадстаўнікамі нерасейскіх народаў, паняволеных у Савецкім Саюзе, як аснова для супрацоўніцтва з расейскім нацыянальным рухам на эміграцыі.

Шырэйшая палітычная праграма гэтае групы была нарысаваная ў дакладзе Ігара Сінявіна „Мы адказваем" і ў судакладзе „Расейцы за скасаваньне імпэрыі" (адсюль і назоў групы) Пятра Балдырава, прачытаных 18 сьнежня 1977 году ў Нью Ёрку на расшыраным паседжаньні арганізацыі „Амэрыканцы за Вызваленьне Паняволеных Народаў".

Галоўным матывам імкненьняў групы „Расейцы за скасаваньне імпэрыі" — зразуменьне й перакананьне, што распадзел савецкае імпэрыі на нацыянальныя дзяржавы ёсьць адзіным разумным разьвязаньнем нацыянальнае праблемы ў Савецкім Саюзе, неабходным і карысным як для паняволеных нерасейскіх народаў, гэтак і для народу расейскага. Расейскія партнэры гэтае канцэпцыі выступаюць не як нейкія дабрадзеі нерасейскіх народаў, а як рэальныя й цьвярозыя палітыкі й людзі высокіх маральнаэтычных прынцыпаў. У дакладзе Ігара Сінявіна было сказана: **„Хто-б не сядзеў на троне ў Пецярбургу ці ў Маскве або ў палітбюро — іхныя інтарэсы ня былі інтарэсамі ні расейскага, ні якога-небудзь народу. Сяньня расейскі народ дарастае да ўсьведамленьня, што вялікія мэты, стаўляныя цэнтральнай уладай: апраўаславіць увесь сьвет, падвесьці ўсе народы пад адзінага гаранта царскага арла, ашчасьлівіць іх камунізмам — усе гэтыя мэты ўжыцьцяўляюцца ягоным коштам, ягоным потам, крывёю, цаной пагібелі лепшай ягонай часьці".**

І далей: **„Здабыцьцё нацыямі собскай дзяржаўнасьці - прыродны працэс, затрымаць які нічога ня зможа. Нашае заданьне зьвесьці да мінімуму ахвяры, няўхільныя пры гэтым. Як расейскаму, гэтак і іншым народам даволі цярпеньняў, што ў XX-ым стагодзьдзі выпалі на іхную долю. Мы таксама павінны будаваць нашае сяньняшняе супрацоўніцтва зь верай у будучае супрацоўніцтва й дружбу свабодных палітычных утварэньняў, што паўстануць на месцы закончыўшай свой гістарычны шлях расейска-савецкай імпэрыі".**

Галоўныя прынцыпы палітычнай пазыцыі групы „Расейцы за скасаваньне імпэрыі", сфармуляваныя ў згаданым судакладзе Пятра Балдырава гэтак:

**„І. Безадкладны дэкрэтаваны роспуск імпэрыі, нацыянальнае самавызначэньне ўсіх былых саюзных рэспублікаў бязь ніякіх папярэдніх перадумоваў".**

**„2. Утварэньне на тэрыторыі былога СССР расейскай нацыянальнай дзяржавы й іншых нацыянальных дзяржаваў у разумных і гістарычна апраўданых межах".**

**„3. Забарона канстытуцыйным парадкам усякае імпэрыялістычнае экспансыі на гэтай тэрыторыі, а ператварэньне яе ў зону міру".**

Як маглі заўважыць чытачы, некаторыя сфармуляваньні навет гэтых кардынальных прынцыпаў, ня кажучы ўжо пра згаданыя разгорнутыя даклады, маюць у сабе некаторыя няяснасьці й супярэчнасьці. Прыкладам, як трэба разумець гэныя „разумныя й гістарычна апраўданыя межы?" І калі падыйсьці да гэтае справы канкрэтна й практычна, дык самых розных і ўзаемна супярэчных прапановаў было-б, здаецца, ня менш, чымся паняволеных сяньня ў Савецкім Саюзе народаў, што імкнуцца да сваёй дзяржаўнай незалежнасьці. І таму вялізарныя цяжкасьці ў шуканьні разьвязкі гэтага пытаньня няўхільныя, якія маглі-б быць разьвязаныя не адразу адным росчыркам пяра.

На сяньня для нас важны толькі сам прынцып, прапанаваны групай „Расейцы за скасаваньне імпэрыі". Палітычныя імкненьні гэтае групы мы шчыра вітаем і жадаем таксама цясьнейшага супрацоўніцтва зь ёю.

**Ст. Станкевіч**

## ЭТНІЧНАЯ КАНСУЛЬТАЦЫЙНАЯ РАДА НЬЮ ДЖЭРЗІ

Адзінаццатага красавіка сёлета губэрнатар штату Нью Джэрзі Брэндан Бэрн падпісаў акт утварэньня Этнічнае Кансультацыйнае Рады штату Нью Джэрзі, першае такога роду арганізацыі на штатавым узроўні. Сярод 14-ёх назначаных губэрнатарам сяброў Рады ёсьць і прадстаўнік Беларусаў — др. Вітаўт Кіпель. У склад Рады ўвайшлі таксама прадстаўнікі ад Украінцаў, Славакоў, Палякоў, Немцаў, Ірляндцаў, Італьянцаў ды інш. Палавіна сяброў назначаныя на тэрмін аднаго году, палавіна, у тым ліку й беларускі прадстаўнік, на тэрмін двух гадоў. Заданьнем Рады, як паясьніў губэрнатар на ўрачыстасьці зладжэньня прысягі ў сталіцы штату Трэнтане, будзе даваць рэкамэндацыі штатаваму ўраду ў справе праграмаў вывучэньня этнічнае спадчыны ў публічных школах штату, каледжах ды на штатавым унівэрсытэце; даваць парады пра ўдзел этнічных арганізацыяў у грамадзкіх і сацыяльных мерапрыёмствах, пра заахвочваньне да этнічна-культурных падзеяў, пра спосабы пашырэньня веды ў амэрыканскім грамадзтве аб нацыянальнай гісторыі й культуры, пра ўдзел этнічных групаў у ўрадавых мерапрыёмствах.

Стварэньне ў Нью Джэрзі штатавае Этнічнае Кансультацыйнае Рады — яшчэ адзін довад, што славуты амэрыканскі „растапляльны кацёл", у якім „ператаплялі" этнікаў на Амэрыканцаў, сам растапіўся ад неперамо́жнае прывязанасьці гэных этнікаў да культурнае спадчыны сваіх прашчураў.

**З.**

# УГОДКІ 25 САКАВІКА Ў МЭЛЬБУРНЕ

У нядзелю 2 красавіка сёлета Беларускі Цэнтральны Камітэт у Вікторыі (Аўстралія) адсьвяткаваў 60-я ўгодкі абвешчаньня дзяржаўнае незалежнасьці Беларусі. Урачыстая акадэмія, прысьвечаная гэтай гістарычнай падзеі, распачалася прапяяньнем аўстралійскага гімну мяшаным беларускім хорам пад кіраўніцтвам сп. П. Мікуліча. Кароткае ўступнае слова сказала старшыня Камітэту сп-ня Э. Яцкевіч, якая пры канцы заклікала ўшанаваць уставаньнем і хвілінай цішыні ўсіх тых, хто змагаўся за зьдзейсьненьне нашай нацыянальнай мэты — незалежнасьці Бацькаўшчыны, ды адначасна ўшанаваць памяць нядаўна памерлага нашага вялікага пэты сьв. пам. Алеся Салаўя, які ў сваіх творах заклікаў любіць Бацькаўшчыну ды змагацца за ейную волю й незалежнасьць. Пасьля афіцыйнага адчыненьня ўрачыстасьці, сп-ня Э. Яцкевіч прачытала шматлікія прывітаньні ад нашых арганізацыяў з Аўстраліі, Эўропы й Задзіночаных Штатаў Амэрыкі.

Рэфэрат на тэму дня ў беларускай мове прачытаў сп. П. Гуз, у ангельскай мове — сп-ня Надзя Груша. Абодвы рэфэраты былі на высокім узроўні й выклікалі глыбокае зацікаўленьне ў прысутных. Прасторная заля Беларускага Дому, у якой адбывалася акадэмія, была перапоўненая. Апрача мясцовых Беларусаў, прысутнічалі таксама нашыя суродзічы зь іншых гарадоў штату Вікторыя.

У мастацкай праграме былі выступленьні беларускага мяшанага хору пад кіраўніцтвам сп. П. Мікуліча (песьні: „Падняты родны сьцяг дзяржавы", „Ой у полі тры крынічанькі", „Ручнікі", „Ой ня кукуй зязюленька"). Жаноцкі квінтэт прапяяў „Купалінку" й „Расьцьвіталі ў жыце васілёчкі". З дэклямацыяў на ўвагу заслугоўвалі вершы: Н. Арсеньневай „Ён прыйдзе гэты дзень" — дэклямаваў Віця Хрэстоўскі, Л. Геніюш „Ёсьць край адзін" — дэклямавала сп-ня Вера Шэйпак, Я. Коласа „Доля батрачкі" — дэклямавала сп-ня Оля Сьлесарэвіч і Я. Купалы „Даўно целам я хварэю" — дэклямавала сп-ня А. Груша. Акадэмія закончылася агульным прапяяньнем беларускага нацыянальнага гімну „Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

Трэба ўзноў-жа падчыркнуць высокі мастацкі ўзровень нашага хору, а заслуга ў гэтым ягонага кіраўніка сп. П. Мікуліча й харыстых, якія не лянуюцца прыяжджаць на сьпеўкі, што ў нашым эміграцкім жыцьці няштодзённая зьява.

Пасьля акадэміі, як заўсёды, адбыўся ўдалы сяброўскі вечар.

**А. К-а**

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ У ЛЁС АНДЖЭЛЕСЕ

Праклямацыяй Бурмістра Тома Брэдлі дзень 25 сакавіка 1978 году быў абвешчаны Беларускім Днём у Лёс Анджэлесе дзеля адзначаньня 60-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. У праклямацыі гэтай Бурмістр заклікаў усіх грамадзян імкнуцца да запраўднай незалежнасьці на аснове самавызначэньня ды выказаў надзею, што мужны Беларускі Народ верне сваю незалежнасьць.

У нядзелю 9 красавіка сёлета ў залі Ўкраінскай Каталіцкай Царквы ў Галівудзе адбылася сьвяткавальная праграма, прысьвечаная ўгодкам, якую зарганізавалі супольна Аддзел БАЗА, Аддзел Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі й Прадстаўнік БККА ў Лёс Анджэлесе. На сьвяткаваньне прыбылі й Беларусы здалёку, як Сан Хозэ й Таўзэнд Окс, некаторыя зь іх былі на сьвяткаваньні ўгодкаў незалежнасьці Беларусі першы раз. Беларускі й амэрыканскі сьцяг ды Пагоня на народнай дзяружцы на сьцяне павялічалі ўрачысты настрой.

Урачыстасьць адчыніў і праграму вёў сп. Ч. Найдзюк. Былі адыграныя амэрыканскі гімн і беларускі рэлігійны гімн „Магутны Божа", а таксама была ўшанаваная памяць хвілінай цішыні ўсіх тых, што памерлі ў змаганьні й працы для незалежнасьці Беларусі. Праклямацыю Бурмістра Лёс Анджэлесу Тома Брэдлі прачытаў Антось Вініцкі. Сп. Часлаў Найдзюк прачытаў прывітальную тэлеграму ад Галоўнай Управы БАЗА, прысланую ейным старшынём Антонам Шукелайцям. Далей былі прачытаныя наступныя прывітаньні: ад Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага, Беларускага Кангрэсавага Камітэту ў Нью Ёрку, ад начальніка галоўнага штабу Беларускага Вызвольнага Фронту Д. Касмовіча й ад Прадстаўніка БККА на штат Калярада Хведара Шыбута. Тэкст Акту 25 Сакавіка прачытала паангельску Карнэля Найдзюк.

Рэфэрат на тэму „60 гадоў змаганьня за незалежнасьць Беларусі" быў прачытаны сп. Ч. Найдзюком. У рэфэраце былі цытаваныя ўрыўкі з апісаньняў сьвяткаваньняў угодкаў 25 Сакавіка ў Будславе, Вільні й Празе, узятыя зь нядаўна выдадзеных успамінаў д-ра Вінцэнта Жука-Грышкевіча.

Верш Янкі Купалы „А хто там ідзе" сказаў Віктар Найдзюк. Верш „25 Сакавіка" Міхася Машары прадэклямавала сп-ня Вера Блоцкая-Вуіч. Верш „Беларусу на чужыне" памастацку прачытала сп-ня Каця Вініцкая. Васьмёхгадовая Каця Канвэк адыграла на піяніне тры музычныя творы. Сп-ня Вера Блоцкая-Вуіч вельмі чула прачытала верш Я. Купалы „Цару неба й зямлі", а ейная дачка Соня адыграла на акардыёне румынскую рапсодыю й песьню. На заканчэньне мастацкай часткі сп. Пётра Ермін прачытаў тры собскія вершы: „Парада", „Варожка" й „Хаўрус на імянінах", напісаныя з гумарам у народным стылі. Праграма была закончаная беларускім нацыянальным гімнам. Пасьля гэтага на разьвітаньне адбылося супольнае прыяцьцё.

**Н.**

# САКАВІКОВАЕ СЬВЯТКАВАНЬНЕ Ў ТАРОНЬЦЕ

У нядзелю 19 сакавіка сёлета, дзякуючы стараньням Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады, нашая таронцкая беларуская калёнія супольна сьвяткавала 60-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці БНР. Нараніцы гэтага дня ў парахвіі БАПЦ сьв. Кірылы Тураўскага пры вуліцы Сан Клярэнс і ў беларускай царкве сьв. Афрасіньні Полацкай пры вуліцы Доўэркорт адбыліся ўрачыстыя багаслужбы. Між прысутных мясцовых вернікаў зьявіліся й госьці з бліжэйшае Ашавы й далейшых Лёндану, Дэтройту, Атавы ды Бэлэвіл.

Угодкавая акадэмія была адчыненая прапяяньнем канадыйскага гімну, а сп. Мікола Ганько, старшыня ўрачыстасьці, прачытаў паангельску Трэйцюю Ўстаўную Грамату Рады БНР, якой была абвешчаная незалежнасьць Беларусі 25 сакавіка 1918 году.

Асноўны й даволі абшырны даклад, перапоўнены гістарычнымі датамі, лікамі й фактамі, зрабіў сп. Янка Сурвіла. Даклад быў агульна цікавы, але яшчэ лепш было-б, калі-б гаварылася ня толькі аб мінуўшчыне, а закраналася й цяперашчына, прыкладам, гэткія важныя й войстра актуальныя тэмы, як правы чалавека й правы народу ў дачыненьні да паняволенай Беларусі.

На рукі арганізацыяў удзельнікаў сьвяткаваньня былі атрыманыя наступныя прывітаньні: ад старшыні гораду Таронта сп. Кромбі, Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў Вікторыі (Аўстралія), Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Нью Ёрку, БЦР у Саўт Рывэры, Беларускага Вызвольнага Фронту ў Заходняй Нямеччыне.

У мастацкай праграме сьвяткаваньня прыймала ўдзел вылучна моладзь. Упераплёт з народнымі танцамі цешыў прысутных наш выдатны малады сьпявак зь Нью Ёрку Данчык Андрусышын. Ён памастацку прачытаў імпрэсыю Сяргея Палуяна „Хрыстос Уваскрос!" ды прапяяў солё песьні „А ў полі вярба" (свае апрацоўкі), „У гушчарах" і „Беларусачка". Малодшая група танцораў выканала „Васілёчкі" й „Таўкачыкі", старэйшая — „Польку Янку" й „Лявоніху".

Урачыстасьць закончылася прапяяньнем беларускага нацыянальнага гімну.

**К. Акула**

# САКАВІКОВЫЯ ЎГОДКІ Ў МАНЧЭСТАРЫ

60-я ўгодкі абвешчаньня дзяржаўнай незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі Беларусы Манчэстару (Ангельшчына) й ваколіцаў урачыста адзначылі ў нядзелю 26 сакавіка сёлета.

Гэтага дня пасьля звычайнай Божай Службы ў парахвіяльнай БАПЦ царкве Жыровіцкае Божае Маці а. пратаярэй Янка Абабурка адправіў адмысловы малебен і сказаў глыбока патрыятычнае казаньне. Падчас малебену сп. Янка Калбаса ад гуртка „Васілёк" з Брадфарду злажыў вянок пры памяткавай табліцы ў царкве з надпісам „1918 — БНР — 1978" у знак ушанаваньня памяці ўсіх змагароў і працаўнікоў, што адыйшлі на вечны супачынак.

Пасьля гэтага ў царкоўнай залі адбылася ўрачыстая акадэмія, якую адчыніў старшыня мясцовага аддзелу ЗБВБ Хведар Кажаневіч ды запрасіў у ганаровы прэзыдыюм сп. Янку Калбасу ад гуртка „Васілёк" з Брадфарду, сп. М. Баяроўскага ад Беларусаў Бірмінгаму й сп. Я. Бунчука ад Беларускага Вызвольнага Фронту з Нотынгаму. Прысланае Старшынём Рады БНР д-рам В. Жук-Грышкевічам прывітаньне прачытаў сакратар мясцовага аддзелу ЗБВБ М. Яськевіч. Сп. П. Шыркоўскі прачытаў рэфэрат „60-я ўгодкі Першага Ўсебеларускага Кангрэсу", які таксама быў атрыманы ад старшыні Рады БНР. Асабіста віталі прысутных сп. Я. Калбаса ад згаданага гуртка „Васілёк" і начальнік краёвага штабу Беларускага Вызвольнага Фронту Я. Бунчук.

На прапанову сп. Хв. Кажаневіча хвілінай цішыні была ўшанаваная памяць тых, што спрычыніліся да Акту 25 Сакавіка. Урачыстасьць закончылася прапяяньнем беларускага нацыянальнага гімну.

Пасьля афіцыйнага сьвяткаваньня адбылося скромнае прыняцьцё для ўдзельнікаў, падчас якога быў праведзены збор ахвяраў на Фонд Рады БНР ды былі раздадзеныя ў ангельскай мове добра апрацаваныя лістоўкі „Вольная Беларусь", выдадзеныя Галоўнай Управай ЗБВБ. Пасьля гэтага вялікая грамада ўдзельнікаў сьвяткаваньня не абмінула й Беларускага Клюбу, дзе весела праводзіла час пры вайсковых і сьвецкіх беларускіх песьнях.

**М. Стаўпіскі**

# І Ў ФЛЯРЫДЗЕ...

22 студзеня ў залі нованабытага будынку Ўкраінскага Культурнага Цэнтру ў Галівудзе на Флярыдзе адбылася ўрачыстая акадэмія, прысьвечаная 60-м угодкам абвешчаньня незалежнасьці Ўкраінскае Народнае Рэспублікі. Акадэмія была зладжаная Ўкраінскім Кангрэсавым Камітэтам. Прадстаўніком ад Беларусаў прыймаў удзел у сьвяткаваньні сп. Ул. Брылеўскі.

19 лютага Лятувіска-Амэрыканскай Радай у Маямі было зладжанае грандыёзнае сьвяткаваньне 60-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Лятувы. На сьвяткаваньні з нацыянальнымі сьцягамі былі Л. і Ул. Брылеўскія ад Беларускага Кангрэсавага Камітэту й прадстаўнікі ад украінскіх і румынскіх арганізацыяў. Сьвяткаваньне праводзілася пад лёзунгам „Нашае супольнае змаганьне за людзкія правы". У канцы ўрачыстасьці была прачытаная й аднагалосна прынятая рэзалюцыя. У ёй падчырквалася адзінства й сіла этнічных групаў у Амэрыцы ў змаганьні за правы чалавека й наш супольны ўплыў на дзяржаўныя й палітычныя дзейнікі ЗША дзеля падтрыманьня імі акцыі паняволеных народаў Усходняе Эўропы ў кірунку іхнага вызваленьня. Ад беларускай дэлегацыі рэзалюцыю падпісала сп-ня Лёнгіна Брылеўская. Рэзалюцыя была перасланая Прэзыдэнту Джымі Картэру. У мастацкай частцы сьвяткаваньня адбыўся канцэрт з удзелам лятувіскіх опэрных сьпевакоў. Урачыстасьць закончылася багатым банкетам.

12-га сакавіка сёлета адбылося сьвяткаваньне 130-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Вугоршчыны, зладжанае Камітэтам Фэдэрацыі Вугорцаў у Паўдзённай Флярыдзе. Акадэмія была папярэджаная ўрачыстай Багаслужбай у Вугорскай Рэфармаванай Царкве ў Маямі. Тамжа адбылася й акадэмія. Бурмістр гораду Маямі адмысловай праклямацыяй абвесьціў дзень 12 сакавіка Днём Незалежнасьці Вугоршчыны. Дэлегаты з нацыянальнымі сьцягамі ад Беларусаў, Украінцаў і Лятувісаў былі прадстаўленыя прысутным у царкве. Сп-ня Лёнгіна Брылеўская ў кароткай прамове прывітала ад Беларусаў прысутных, закончыўшы словамі: „Трэба верыць, што яшчэ раз прыйдзе Вясна Народаў. Так як 130 гадоў таму нарадзілася Вугоршчына, гэтак у наступнай Вясьне Народаў паўстануць, як кветкі пасьля сьнегу, свабодныя народы Вугоршчыны, Беларусі, Украіны й іншыя ды расьцьвітуць пышнымі кветкамі сваёй незалежнасьці. Гэтак нам памажы Божа!" Акадэмія закончылася банкетам.

На 60-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі давялося абмежыцца толькі разасланьнем іншанацыянальным арганізацыям адмысловага лісту дзеля паінфармаваньня іх, што й у нас было й ёсьць нацыянальнае змаганьне, што й у нас ёсьць нацыянальнае сьвята незалежнасьці. Але на глыбокі жаль, мы не змаглі яго належна тут ушанаваць, хоць для гэтага мелі ўсе дадзеныя. Сорамна!

Беларускі нацыянальны сьцяг упяршыню ў гісторыі Флярыды красаваўся сярод іншых нацыянальных сьцягоў у дэманстрацыях з нагоды Тыдняў Паняволеных Народаў у Маямі яшчэ тады, калі нас, Беларусаў, былі тут літаральна толькі адзінкі. Апошнімі гадамі беларуская калёнія ў Флярыдзе ўзбагацілася „дзеячамі", „міністрамі", „палкоўнікамі", „генэраламі". Нажаль, да гэтага часу шукаючы супольнай мовы, мы топчымся на адным месцы, бездапаможныя зарганізавацца ў вадну грамаду, хаця-б дзеля рэпрэзэнтацыі нас навонкі.

**Л. Б-я**

### ПАПРАЎКА

З прычыны тэхнічнага недагляду ў папярэднім нумары „Беларуса" ў зацемцы аб інаўгарацыі губэрнатара Нью Джэрзі Брэндана Бэрна было прапушчанае прозьвішча сп. Лявона Шурака, як прысутнага на інаўгарацыі. Выбачаемся.

